

Сяроў Валянцін
**Праводзіны навабранца.** 1906
Папера на кардоне, акварэль, графітны аловак, пастэль. 26,4×22,1
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

Серов Валентин
**Проводы новобранца**. 1906
Бумага на картоне, акварель, графитный карандаш, пастель. 26,4×22,1
Национальный художественный музей Республики Беларусь

Serov Valentin
**Seeing off a Recruit.** 1906
Watercolour, graphite pencil, and pastel on paper laid on cardboard. 26.4×22.1
National Art Museum of the Republic of Belarus




Сяроў Валянцін
**Партрэт А. В. Марозава, калекцыянера, які субсідзіраваў часопіс «Свет мастацтва».** 1909
Папера на кардоне, чорная акварэль, бялілы, сангвін, каляровы аловак
93,4×59,8
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

Серов Валентин
**Портрет А. В. Морозова, коллекционера, субсидировавшего журнал «Мир искусства».** 1909
Бумага на картоне, черная акварель, белила, сангина, цветной карандаш
93,4×59,8
Национальный художественный музей Республики Беларусь

Serov Valentin
**Portrait A. V. Morozov, of the Collector, who Subsidized "World of Art" Magazine.** 1909
Black watercolour, sanguine, and coloured pencil on paper laid on cardboard
93.4×59.8
National Art Museum of the Republic of Belarus



Сомаў Канстанцін
**Мужчынскі партрэт.** 1912
Папера, аловак, сангвін. 43×31,4
Латвійскі Нацыянальны мастацкі музей

Сомов Константин
**Мужской портрет.** 1912
Бумага, карандаш, сангина. 43×31,4
Латвийский Национальный художественный музей

Somov Konstantin
**Portrait of a Man.** 1912
Pencil and sanguine on paper. 43×31.4
Latvian National Museum of Art



Сорын Савелій
**Жанчына з ружай.** 1910
Палатно, алей. 106×70 (авал)
З карпаратыўнай калекцыі
Белгазпрамбанка

Сорин Савелий
**Женщина с розой.** 1910
Холст, масло. 106×70 (овал)
Из корпоративной коллекции
Белгазпромбанка

Sorin Savely
**Woman with a Rose.** 1910
Oil on canvas. 106×70 (oval)
Corporate collection
of Belgazprombank



Стаброўскі Казімір
**Залаты палац.** 1912
Фанера, алей. 92×110
З прыватнай калекцыі адвакацкай канторы «Valiunas Ellex» (Вільнюс)

Стабровский Казимир
**Золотой дворец.** 1912
Фанера, масло. 92×110
Из частной коллекции адвокатской конторы «Valiunas Ellex» (Вильнюс)

Stabrowski Kazimir (Kazimierz)
**The palace of gold.** 1912
Oil on plywood. 92×110
Private collection of the law firm Valiunas Ellex (Vilnius)



Стэлецкі Дзмітрый
**Казка.** Палатно, алей
81×65,5
З карпаратыўнай калекцыі
Белгазпрамбанка

Стеллецкий Дмитрий
**Сказка.** Холст, масло
81×65,5
Из корпоративной коллекции
Белгазпромбанка

Stelletsky Dmitry
**Fairy Tale.** Oil on canvas
81×65.5
Corporate collection
of Belgazprombank



Судзейкін Сяргей
**Эскіз дэкарацыі да пастаноўкі оперы М. М. Яўрэінава і Л. В. Урванцава «Бяглячка».** 1913
Палатно, алей. *75,5×101*
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

Судейкин Сергей
**Эскиз декорации к постановке оперы Н. Н. Евреинова и Л. В. Урванцева «Беглая».** 1913
Холст, масло. *75,5×101*
Национальный художественный музей Республики Беларусь

Sudeikin Sergey
**Set Design for the Opera of N. N. Evreinov and L. V. Urvantsev «Runaway».** 1913
Oil on canvas. *75.5×101*
National Art Museum of the Republic of Belarus



Чурлёніс Мікалоюс Канстанцінас
**Горы.** Каля 1905
Кардон, пастэль. 36×30
Мастацкі музей Літвы

Чюрлёнис Микалоюс Константинас
**Горы.** Около 1905
Картон, пастель. 36×30
Художественный музей Литвы

Čiurlionis Mikalojus Konstantinas
**The Mountains.** c. 1905
Pastel on cardboard. 36×30
Lithuanian Art Museum



Чурлёніс Мікалоюс Канстанцінас
**Ахвяра.** 1907–1908
Папера, флорафорт
31,5×28,7; 21,7×24,5
Мастацкі музей Літвы

Чюрлёнис Микалоюс Константинас
**Жертва.** 1907–1908
Бумага, флорофорт
31,5×28,7; 21,7×24,5
Художественный музей Литвы

Čiurlionis Mikalojus Konstantinas
**Sacrifice.** 1907–1908
Paper, florofort
31.5×28.7; 21.7×24.5
Lithuanian Art Museum

# «Выразная і цвёрдая лінія»

У дзейнасці Бакста выяўляліся не толькі markers разнабаковасць, пачуццё стылю, характэрныя для ўсёй групы мастакоў «Свету мастацтва», але і вялікія здольнасці да выкладчыцкай працы.

Бакст вучыў маляванню дзяцей вялікага князя Уладзіміра Аляксандравіча. Гэты перыяд ім дэталёва апісаны ў аўтабіяграфічным рамане «Жорсткае першае каханне». Як чалавек адказны, Бакст стараўся прывіць Алене і Барысу не толькі навыкі малявання, але і любоў да мастацтва. Яму, чалавеку мяккаму і далікатнаму, нялёгка было справіцца з гарэзлівымі падлеткамі. Тым не менш цёплыя адносіны паміж вучнямі і настаўнікам захаваліся на ўсё жыццё.

Лізавета Мікалаеўна Званцава (1864–1921) вучылася ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў у П. П. Чысцякова і І. Я. Рэпіна, а затым у Парыжы ў акадэміях Жульена і Каларосі. Пасля вяртання ў Расію ў 1899 годзе яна вырашыла стварыць навучальную ўстанову, якая прадастаўляла б навучэнцам творчую свабоду па ўзоры акадэміі Жульена. Настаўнікі павінны былі прытрымлівацца перадавых поглядаў. Таму ў ёй выкладалі К. Каровін, В. Сяроў. У 1906 годзе ў вядомым «Доме з вежай» на рагу Таўрычаскай (дом 35) і Цвярской (дом 1) Л. Званцава адкрывае прыватную мастацкую школу (студыю). Для выкладання малюнка быў запрошаны М. Дабужынскі, а жывапісу — Бакст. Такім чынам, школа апынулася пад уплывам «Свету мастацтва». Упор рабіўся на найноўшыя плыні сучаснага мастацтва. Бакст, які вызначаў мастацкі кірунак школы, надаваў асаблівую ўвагу фавізму. Ён падтрымліваў прынцып шырокага падыходу ў творчасці, аднак патрабаваў ад сваіх вучняў «выразнай і цвёрдай лініі», якая была яго ўпадабаным канькам, што, як пазней успамінаў Дабужынскі, выклікала гарачыя спрэчкі з сябрамі.

Адным з самых вядомых вучняў школы-студыі быў Марк Шагал. Стаць вучнем Бакста было, па прызнанні самога мастака, чымсьці неверагодным, паколькі той увасабляў для яго Еўропу, Парыж. Меркаванне педагога было для яго неаспрэчным. Бакст ставіўся з прыхільнасцю да Шагала, нават уносіў за яго плату ў школе, хоць быў строгім да свайго вучня. Яго бянтэжылі алагізмы Шагала. Бакст меркаваў, што для мастака вышэйшым узорам павінна заставацца натура. Як успамінае вучаніца школы Ю. Абаленская, Бакст ніяк не мог прымірыцца з тым, што скрыпач на карціне Шагала мог зацягнуць вялікае крэсла на вяршыню гары.

20 красавіка 1910 г. у рэдакцыі часопіса «Апалон» адбылася выніковая выстава навучэнцаў школы. На ёй было прадстаўлена 100 работ, прычым, па патрабаванні Бакста, ананімна. Выстава падводзіла вынік чатырохгадовай дзейнасці школы. Бакст не прысутнічаў на адкрыцці выставы. 17 красавіка ён з'ехаў у Парыж, каб цалкам прысвяціць сябе працы над афармленнем спектакляў «Рускіх сезонаў» пад кіраўніцтвам Сяргея Дзягілева. З гэтага часу ўся яго творчасць будзе прысвечана тэатру.

Да кіраўніцтва класам жывапісу ў школе Званцавай прыйшоў К. С. Пятроў-Водкін. Новы настаўнік імпануе Шагалу, але яго творчыя планы ўжо звязаны з Францыяй. Перад ад'ездам Бакста ў Шагала адбылася размова з настаўнікам пра магчымую паездку ў Парыж. Наўздагон быў накіраваны ліст з просьбай аб садзейнічанні ў гэтай справе. У адказе, атрыманым пасля доўгіх і пакутлівых чаканняў у канцы 1910 года, Бакст абяцаў дапамогу і падтрымку, недвухсэнсоўна дадаўшы: «У Вашых работах мне больш за ўсё падабаецца менавіта тая правінцыя, якая вакол Вас». Шагал прымае канчатковае

Вялікая княгіня Марыя Паўлаўна з дзецьмі Андрэем, Аленай, Барысам, Кірылам. 1880-я гг.

Великая княгиня Мария Павловна с детьми Андреем, Еленой, Борисом, Кириллом. 1880-е гг.

Grand Duchess Maria Pavlovna with children Andrei, Elena, Boris, and Kirill. 1880s





Будынак, у якім размяшчалася школа Л. М. Званцавай. Санкт-Пецярбург

Здание, в котором располагалась школа Е. Н. Званцевой. Санкт-Петербург

The building, which housed the School of E. N. Zvantseva. St. Petersburg




Школа Рисованія и Живописи
подъ руководствомъ художниковъ
Бакста и Добужинскаго
Занятія отъ 10½ ч. утра до 3 ч. дня.
Этюдъ пишется два дня; третій день на память.
Рисунокъ на два дня; третій день онъ-же на память.
Поза модели по соглашенію между учащимися.
Плата 20 р. въ мѣсяцъ.
Начало занятій съ 1 Сентября.
АДРЕСЪ: Петербургъ, Таврическая д. 25. кв. 23.
Завѣдующая Е. Н. Званцова
1907

Рэклама школы Л. М. Званцавай. 1906–1908 гг.
З фондаў Літоўскай нацыянальнай бібліятэкі імя Марцінаса Мажвідаса

Реклама школы Е. Н. Званцевой. 1906–1908 гг.
Из фондов Литовской национальной библиотеки им. Мартинаса Мажвидаса

The Zvanceva school advertisement. 1906–1908s
The Martynas Mažvydas National Library of Lithuania





М. Дабужынскі. Фота каля 1908 г.
М. Добужинский. Фото ок. 1908 г.
M. Dobuzhinsky. Photo, c. 1908

Л. Бакст. 1906 г. АР ДГТ
Л. Бакст. 1906 г. ОР ГТГ
L. Bakst. 1906 г. OR STG

рашэнне ехаць у Парыж самастойна. У маі 1911 года ён накіроўвае першыя пасланні з Францыі свайму таварышу па школе Званцавай Аляксандру Рому. Прыяцелі дамаўляюцца аб сустрэчы. Іх сяброўства працягвалася шмат гадоў. Шагал, накіраваны Народным камісарыятам асветы ў Віцебскую губерню ўпаўнаважаным па справах мастацтваў Віцебскай губерні, запрасіў Рома на працу ў створанае ім Народнае мастацкае вучылішча. Канец іх дружбе паклала банальная спрэчка з нагоды жылплошчы. Тады ж, у чэрвені 1911 года, прыяцелі весела шпацыравалі па парыжскіх вуліцах.

Калі Шагал праз гады сустрэў у Парыжы Бакста, той замест прывітання спытаў: «Усё ж такі вы прыехалі?» А пасля наведвання студыі былога вучня Бакст прызнаў: «Цяпер вашыя фарбы спяваюць».

На думку сучасных мастацтвазнаўцаў, якая склалася на аснове ўспамінаў вучняў Бакста, прынцыпы яго педагагічнага падыходу: калектывізм і самабытнасць, высокі ўзровень тэхнічнага майстэрства і «неперваймальнае» бачанне — здавалася б, амаль выключаюць адзін аднаго. Баксту ж удавалася ўтрымліваць іх у раўнавазе, у вялікай ступені дзякуючы свайму педагагічнаму таленту.

У ліку вучняў Бакста былі вядомыя пасля мастакі: графік і ілюстратар Георгій Нарбут, жывапісец Леанард Туржанскі, адзін з лідараў рускага авангарду Мікалай Мацюшын і яго жонка — паэт і мастак Алена Гурло, графік Мікалай Тырса, жонка М. Валошына — жывапісец і паэт Маргарыта Сабашнікава, партрэтыст і кніжны ілюстратар Юлія Абаленская.

*Уладзімір ШЧАСНЫ,*

куратар выстаўкі

«Час і творчасць Льва Бакста»



GOLF LINKS
INTERN. HÔTEL TELEGR. CODE.

HÔTEL STEPHANIE
LICHTENTHALER ALLÉE No. 1
BADEN-BADEN.

17 Août 1913



Пісьмо Льва Бакста
Мсціславу Дабужынскаму
18 лютага 1906,
Санкт-Пецярбург
З фондаў Літоўскай
нацыянальнай бібліятэкі
імя Марцінаса Мажвідаса

Письмо Льва Бакста
Мстиславу Добужинскому
18 февраля 1906,
Санкт-Петербург
Из фондов Литовской
национальной библиотеки
им. Мартинаса Мажвидаса

Léon Bakst's letter
to Mstislav Dobuzhinski
February 18, 1906,
St. Petersburg
The Martynas Mažvydas
National Library of Lithuania

Пісьмо Льва Бакста Мсціславу Дабужынскаму
17 жніўня 1913 г., Бадэн-Бадэн — Марлотэ
З фондаў Літоўскай нацыянальнай бібліятэкі
імя Марцінаса Мажвідаса

Письмо Льва Бакста Мстиславу Добужинскому
17 августа 1913 г., Баден-Баден — Марлотте
Из фондов Литовской национальной библиотеки
им. Мартинаса Мажвидаса

Léon Bakst's letter to Mstislav Dobuzhinski
August 17, 1913, Baden-Baden — Marlotte
The Martynas Mažvydas National Library of Lithuania



Марк Шагал і Міхаіл Ром у Парыжы. 1911 г.

Марк Шагал и Михаил Ромм в Париже. 1911 г.

Marc Chagall and Mikhail Romm in Paris. 1911

# «Ясная и твердая линия»

В деятельности Бакста проявлялись не только разносторонность, чувство стиля, характерные для всей группы художников «Мира искусства», но и большие способности к преподавательской работе.

Бакст учил рисованию детей великого князя Владимира Александровича. Этот период им детально описан в автобиографическом романе «Жестокая первая любовь». Как человек ответственный, Бакст старался привить Елене и Борису не только навыки рисования, но и любовь к искусству. Ему, человеку мягкому и деликатному, нелегко было справиться с озорными подростками. Тем не менее теплые отношения между учениками и учителем сохранились на всю жизнь.

В 1906–1908 гг. Бакст вместе с Добужинским руководили занятиями в Художественной школе Е. Н. Званцевой.

Елизавета Николаевна Званцева (1864–1921) училась в Петербургской академии художеств у П. П. Чистякова и И. Е. Репина, а затем в Париже в академиях Жюльена и Коларосси. После возвращения в Россию в 1899 году она решила создать учебное заведение, предоставляющее учащимся творческую свободу по образцу академии Жюльена. Учителя должны были придерживаться передовых взглядов. Поэтому в ней преподавали К. Коровин, В. Серов. В 1906 году в известном «Доме с башней» на углу Таврической (дом 35) и Тверской (дом 1) Е. Званцева открывает частную художественную школу (студию). Для преподавания рисунка был приглашен М. Добужинский, а живописи — Бакст. Таким образом, школа оказалась под влиянием «Мира искусства». Упор делался на новейшие течения современного искусства. Бакст, который определял художественное направление школы, уделял особое внимание фовизму. Он поддерживал принцип широкого подхода в творчестве, однако требовал от своих учеников «ясной и твердой линии», которая была его излюбленным коньком, что, как позже вспоминал Добужинский, вызывало горячие споры с друзьями.

Одним из самых известных учеников школы студии был Марк Шагал. Стать учеником Бакста было, по признанию самого художника, чем-то невероятным, поскольку тот олицетворял для него Европу, Париж. Мнение педагога было для него неоспоримым. Бакст благоволил Шагалу, даже вносил за него плату в школу, хотя был строг к своему ученику. Его смущали алогизмы Шагала. Бакст полагал, что для художника высшим образцом должна оставаться натура. Как вспоминает ученица школы Ю. Оболенская, Бакст никак не мог примириться с тем, что скрипач на картине Шагала мог втащить большой стул на вершину горы.

20 апреля 1910 г. в редакции журнала «Аполлон» состоялась итоговая выставка учащихся школы. На ней было представлено 100 работ, причем, по настоянию Бакста, анонимно. Выставка подводила итог четырехлетней деятельности школы. Бакст не присутствовал на открытии выставки. 17 апреля он уехал в Париж, чтобы полностью посвятить себя работе над оформлением спектаклей «Русских сезонов» под руководством Сергея Дягилева. Отныне все его творчество будет посвящено театру.

К руководству живописным классом в школе Званцевой приступает К. С. Петров-Водкин. Новый наставник импонирует Шагалу, но его творческие планы уже связаны с Францией. Перед отъездом Бакста у Шагала состоялся разговор с учителем о возможной поездке в Париж. Вдогонку было на-

правлено письмо с просьбой о содействии в этом деле. В ответе, полученном после долгих и мучительных ожиданий в конце 1910 года, Бакст обещал помощь и поддержку, недвусмысленно добавив: «В Ваших работах мне более всего нравится именно та провинция, которая вокруг Вас». Шагал принимает окончательное решение ехать в Париж самостоятельно. В мае 1911 года он направляет первые послания из Франции своему товарищу по школе Званцевой Александру Ромму. Приятели договариваются о встрече. Их дружба продолжалась много лет. Шагал, направленный Народным комиссариатом просвещения в Витебскую губернию уполномоченным по делам искусств Витебской губернии, пригласил Ромма на работу в созданное им Народное художественное училище. Конец их дружбе положил банальный спор по поводу жилплощади. Тогда же, в июне 1911 года, два приятеля весело прогуливались по парижским улицам.

Когда Шагал спустя годы встретил в Париже Бакста, тот вместо приветствия спросил: «Все-таки вы приехали?» А после посещения студии бывшего ученика, Бакст признал: «Теперь ваши краски поют».

По мнению современных искусствоведов, сложившемуся на основе воспоминаний учеников Бакста, принципы его педагогического подхода: коллективизм и самобытность, высокий уровень технического мастерства и «неподражательное» видение — казалось бы, почти исключают друг друга. Баксту же удавалось удерживать их в равновесии, в большой степени благодаря своему педагогическому таланту.

В числе учеников Бакста были известные впоследствии художники: график и иллюстратор Георгий Нарбут, живописец Леонард Туржанский, один из лидеров русского авангарда Николай Матюшин и его супруга — поэтесса и художник Елена Гурло, график Николай Тырса, живописец и поэт, супруга М. Волошина — Маргарита Сабашникова, портретист и книжный иллюстратор Юлия Оболенская.

*Владимир СЧАСТНЫЙ,*

куратор выставки
«Время и творчество Льва Бакста»

# «A CLEAR AND FIRM LINE»

The creative life of Léon Bakst is distinguished not only by his versatility and sense of style, characteristic to the entire group of artists of *Mir Iskusstva* ("World of Art"), but also by a great aptitude for teaching.

Bakst taught drawing to the children of Grand Duke Vladimir Alexandrovich. What he tried to give to Elena and Boris was not only drawing skills, but also the love of art. Warm relations between the students and the teacher remained for life.

In 1906–1908, Bakst together with Dobuzhinsky led classes at the Art School of E. N. Zvantseva. Thus, the school was under the influence of the "World of Art", so, the latest trends of contemporary art were emphasized during the classes. Setting the artistic direction of the school, Léon Bakst paid special attention to Fauvism. He supported the principle of a multi-faceted approach to art, but demanded that his students had "a clear and firm line".

One of the most famous students of the school-studio of E. N. Zvantseva was Marc Chagall. To become Bakst's apprentice was, according to the artist, something incredible, because Bakst personified Europe, and especially Paris to him. The opinion of the teacher, he considered crucial. Léon Bakst favoured Chagall and even paid for him to study at the school, although in the classroom he was strict with his apprentice. Bakst was taken aback by Chagall's lack of logic. Chagall made the final decision to move to France, being followed by his schoolmate from the Zvantseva school Alexander Romm. Years later, after a visit to the studio of the former student, Bakst admitted: "Now your colours are singing".

Among Bakst's pupils, who later became famous, were graphic artist and illustrator George Narbut; artist Leonard Turzhansky; one of the leaders of the Russian avant-garde Nicholas Matyushin and his wife — poet and artist Elena Guro; graphic artist Nikolai Tyrsa; artist and poet, M. Voloshin's wife Margarita Sabashnikova; portraitist and book illustrator Yulia Obolenskaya.

*Uladzimir Shchasny,*
curator of the exhibition
"The Times and Works of Léon Bakst"




Бакст Леў
**Пейзаж з кіпарысамі.** 1907
Папера, акварэль, бялілы. 22×35
З карпаратыўнай калекцыі
Белгазпрамбанка

Бакст Лев
**Пейзаж с кипарисами.** 1907
Бумага, акварель, белила. 22×35
Из корпоративной коллекции
Белгазпромбанка

Bakst Léon
**Landscape with Cypresses.** 1907
Watercolour on paper. 22×35
Corporate collection
of Belgazprombank



Дабужынскі Мсціслаў
**Вільня (Вільнюс) у снезе.** 1910
Папера, наклееная на кардон, гуаш, бялілы, тэмпера, графітны аловак
34,6×49,4
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

Добужинский Мстислав
**Вильна (Вильнюс) в снегу.** 1910
Бумага, наклеенная на картон, гуашь, белила, темпера, графитный карандаш
34,6×49,4
Национальный художественный музей Республики Беларусь

Dobuzhinsky Mstislav
**Vilna (Vilnius) in the snow.** 1910
Gouache, white lead, tempera, and graphite pencil on paper laid on cardboard
34.6×49.4
National Art Museum of the Republic of Belarus



Шагал Марк
**Лунацік.** 1911–1912
Папера, гуаш, аловак. 33,5×22
З карпаратыўнай калекцыі
Белгазпрамбанка

Шагал Марк
**Лунатик.** 1911–1912
Бумага, гуашь, карандаш. 33,5×22
Из корпоративной коллекции
Белгазпромбанка

Chagall Marc
**Sleepwalker.** 1911–1912
Gouache and pencil on paper. 33.5×22
Corporate collection
of Belgazprombank



Ром Аляксандр
**На выстаўцы «Свет мастацтва»**. 1912
Папера, туш. 13×11
Віцебскі абласны
краязнаўчы музей

Ромм Александр
**На выставке «Мир искусства».** 1912
Бумага, тушь. 13×11
Витебский областной
краеведческий музей

Romm Alexander
**At the exhibition of the "World of Art".** 1912
Ink on paper. 13×11
Vitebsk Regional History Museum



Ром Аляксандр
**Танцоркі. Стамбул**
Папера, акварэль. 25×18
Віцебскі абласны
краязнаўчы музей

Ромм Александр
**Танцовщицы. Стамбул**
Бумага, акварель. 25×18
Витебский областной
краеведческий музей

Romm Alexander
**Dancers. Istanbul**
Watercolour on paper. 25×18
Vitebsk Regional
History Museum

# Першая праца ў тэатры

На мяжы XIX і XX стагоддзяў у імператарскія тэатры прыйшлі новыя людзі. З 1899 года Дырэкцыю імператарскіх тэатраў, якая знаходзілася ў Пецярбургу і падпарадкоўвалася Міністэрству Двара, узначаліў князь Сяргей Міхайлавіч Валконскі (1860–1937), акцёр-аматар і тэарэтык тэатральнага мастацтва. Яго заслугай стала запрашэнне на працу ў казённыя тэатры групы маладых людзей і, у прыватнасці, Сяргея Дзягілева. За Дзягілевым пацягнуліся яго сябры, мастакі групы, якія кансалідаваліся вакол А. М. Бенуа, і яго аднадумцы. Сярод іх быў Леў Самойлавіч Бакст, які ўжо паспеў праявіць сябе як таленавіты графік — часопісны ілюстратар і аўтар выдатных партрэтаў, выкананых у акварэлі і пастэлі.

У 1901 годзе Бакст атрымаў заказ на афармленне спектакля — французскай пантамімы-балета «Сэрца маркізы» на музыку Ж. Гірана з пралогам і эпілогам у вершах Ф. Фебра. Сюжэт пантамімы, вельмі немудрагелісты, з жыцця Парыжа часоў Дырэкторыі. Персанажаў мала — Маркіза, Віконт, субрэтка Лізэт, доктар П'еро, вулічны музыкант, жабрачка з дзецьмі. Ды і сам спектакль камерны, для невялікай сцэны Эрмітажнага тэатра. Гэты тэатральны будынак, які ўваходзіць у комплекс Зімовага палаца, быў разлічаны на парадныя спектаклі з нагоды свят і дыпламатычных прыёмаў, а таксама для хатніх спектакляў царскай сям'і. Асноўнымі гледачамі з'яўляліся перш за ўсё самі члены сям'і і набліжаныя да Двара. У канцы XIX стагоддзя Міністэрства Двара спрабуе пашырыць функцыі тэатра. Ставяцца аматарскія спектаклі з удзелам вялікасвецкіх выканаўцаў. Праводзяцца касцюміраваныя балі. Усё часцей ладзяцца спектаклі з запрошанымі зоркамі першай велічыні з Марыінскага, Александрынскага, Міхайлаўскага тэатраў. У Эрмітажным тэатры няма сваёй трупы, гэта толькі пляцоўка для эксклюзіўных пастановак.

Балет «Сэрца маркізы» даручаецца ветэрану імператарскай сцэны знакамітаму Марыусу Петыпа. Бакст пачынае з захапленнем працаваць над афармленнем. Па правілах Дырэкцыі імператарскіх тэатраў ён павінен стварыць макет дэкарацыйнага афармлення і намаляваць камплект эскізаў касцюмаў для выканання ў майстэрнях Марыінскага тэатра. Бакст, які не меў вопыту працы дэкаратарам, быў непрыемна здзіўлены тымі цяжкасцямі, якія яго чакалі ў працэсе пастаноўкі. Дэкаратар-выканаўца, мастак А. К. Алегры, адвольна змяняў задуму аўтара. Захаваўся ліст Бакста да Бенуа, дзе ён скардзіцца на скажэнні ў арнаментыцы і каларыстычным вырашэнні дэкарацыі: «У рэшце рэшт, ні адзін тон не застаўся, як у мяне на эскізе, ні адзін арнамент не пакінуты ў спакоі...»[1] Бакст спрабуе ажыццяўляць аўтарскі нагляд над выкананнем дэкарацый па сваіх эскізах. Пра гэта сведчаць і дзённікавыя запісы дырэктара імператарскіх тэатраў У. А. Целякоўскага. 9 студзеня 1902 г. ён піша: «Дэкарацыя аглядалася ў прысутнасці самога Бакста, і была яна такой слабай, што вырашылі яе даць перарабіць Алегры»[2]. Менш нараканняў выклікалі ў мастака касцюмы. Нягледзячы на перажыванні мастака, прэм'ера ў вышэйшай прысутнасці прайшла ўдала. Яна адбылася 22 лютага 1902 г., балет-пантаміма быў пастаўлены ў другім аддзяленні. У першым спяваў Ф. І. Шаляпін, выконваў у мініяцюрнай оперы М. А. Рымскага-Корсакава

[1] Пружан И. Н. Лев Самойлович Бакст // Искусство, 1975. — С. 55.

[2] Теляковский В. А. Дневники директора императорских театров. 1901–1903. — М., 2002. — С. 145.

«Моцарт і Сальеры» партыю Сальеры. Захавалася праграма прадстаўлення (як тады называлі — «афіша»). Вокладка праграмы таксама была намалявана Л. Бакстам і складала стылістычна адзінае цэлае з дэкарацыямі балета. Неўзабаве пасля прэм'еры Бакст атрымаў прапанову аформіць у Александрынскім тэатры трагедыю Эўрыпіда «Іпаліт», а ў Эрмітажным тэатры балет «Фея лялек» на музыку Ё. Байера. Гэта было лепшым доказам поспеху мастака. Яго лёс павярнуўся ў бок тэатра.

У Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным музеі тэатральнага і музычнага мастацтва захаваўся амаль поўны камплект малюнкаў касцюмаў да «Сэрца маркізы». Усе яны падпісаны Бакстам, выкананы на паперы «вержэ» акварэллю з даданнем бяліл. Некаторыя дэталі вынесены на палі і прамаляваны пяром. Гэты прыём часта сустракаецца пасля ў тэатральных малюнках Бакста, калі ён асаблівую ўвагу надае важным фрагментам касцюмаў або аксесуараў. Аналагічны камплект эскізаў ёсць у Дзяржаўнай санкт-пецярбургскай тэатральнай бібліятэцы. Малюнкі выкананы на кальцы і дакладна паўтараюць падпісныя эскізы Бакста. Абагульненая прапрацоўка асоб і некаторых дэталей сукенкі, амаль манахромны каларыт прымушаюць думаць, што на напаўпразрыстую паперу нанесены копіі. Пытанне ў тым, хто аўтар гэтых копій. Ці не выконваў іх сам Бакст? Па правілах таго часу камплект матэрыялаў па спектаклі архіваваўся Дырэкцыяй тэатраў і пасля быў прыняты на захоўванне ў тэатральную бібліятэку ў мастацка-пастановачны аддзел. З аднаго боку, мастак піша ў лісце ад 12 сакавіка 1902 г. А. П. Боткінай (сястры жонкі): «Божа, што яны нарабілі па маіх эскізах!.. На шчасце, у мяне засталіся эскізы дэкарацый і касцюмы — гонар выратаваны!»[3] З другога боку, ёсць запіс у дзённіку У. А. Целякоўскага ад 13 мая 1902 г.: «Быў у мяне сёння Бакст, я яму сказаў, што барон Кусаў пакрыўджаны на яго з прычыны неатрымання адказу на ліст з нагоды вяртання копій малюнкаў пантамімы "Le Coeur de la marquise". Бакст сказаў, што малюнкі гатовыя і ён іх на днях даставіць»[4]. Значыць, копіі існавалі і, хутчэй за ўсё, былі здадзены на захоўванне ў Дырэкцыю. Падпісныя ж малюнкі Бакста набыты ў 1934 годзе Ленінградскім тэатральным музеем (цяпер Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны музей тэатральнага і музычнага мастацтва). На адвароце малюнкаў маюцца паметы алоўкам з указаннем кошту і, мабыць, нумара квітанцыі. Усе эскізы ацэнены антыкварамі ў 39 рублёў за ліст. Хутчэй за ўсё, яны былі набыты ўладальнікам у букіністычнай краме, пра што і сведчаць лічбы на адваротным баку. Сам Бакст не вярнуўся ў Расію пасля Першай сусветнай вайны. Большая частка яго творчай спадчыны апынулася за мяжой — у Еўропе і Амерыцы. Яго ранні тэатральныя работы — эскізы да «Іпаліта» Эўрыпіда, «Эдыпа ў Калоне» Сафокла, «Феі лялек» Ё. Байера — часцей сустракаюцца ў расійскіх зборах. Малюнкі да «Сэрца маркізы» (першая ажыццёўленая тэатральная работа Л. Бакста) з іх ліку.

*Алена ГРУШВІЦКАЯ,*

старшы навуковы супрацоўнік
Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага музея
тэатральнага і музычнага мастацтва

[3] Бакст Л. С. Моя душа открыта.: В 2-х кн. Кн. 2. Письма. — М.: Искусство — XXI век, 2012. — С. 36.
[4] Теляковский В. А. Дневники директора императорских театров. 1901–1903. — М., 2002. — С. 248–249.

# Первая работа в театре

На рубеже XIX и XX веков в императорские театры пришли новые люди. С 1899 года Дирекцию императорских театров, находившуюся в Петербурге и подчинявшуюся Министерству Двора, возглавил князь Сергей Михайлович Волконский (1860–1937), актер-любитель и теоретик театрального искусства. Его заслугой стало приглашение на работу в казенные театры группы молодых людей и, в частности, Сергея Дягилева. За Дягилевым потянулись его друзья, художники группы, консолидировавшиеся вокруг А. Н. Бенуа, и его единомышленники. Среди них был Лев Самойлович Бакст, который уже успел проявить себя как талантливый график — журнальный иллюстратор и автор замечательных портретов, выполненных в акварели и пастели.

В 1901 году Бакст получил заказ на оформление спектакля — французской пантомимы-балета «Сердце маркизы» на музыку Ж. Гирана с прологом и эпилогом в стихах Ф. Февра. Сюжет пантомимы, весьма незатейливый, из жизни Парижа времен Директории. Персонажей немного — Маркиза, Виконт, субретка Лизет, доктор Пьеро, уличный музыкант, нищенка с детьми. Да и сам спектакль камерный, для небольшой сцены Эрмитажного театра. Это театральное здание, входящее в комплекс Зимнего дворца, было рассчитано на парадные спектакли по случаю празднеств и дипломатических приемов, а также для домашних спектаклей царской семьи. Основными зрителями являлись, прежде всего, сами члены семьи и приближенные Двора. В конце XIX века Министерство Двора пытается расширить функции театра. Ставятся любительские спектакли с участием великосветских исполнителей. Проводятся костюмированные балы. Все чаще устраиваются спектакли с приглашенными звездами первой величины из Мариинского, Александринского, Михайловского театров. В Эрмитажном театре нет своей труппы, это лишь площадка для эксклюзивных постановок.

Балет «Сердце маркизы» поручается ветерану императорской сцены знаменитому Мариусу Петипа. Бакст начинает с увлечением работать над оформлением. По правилам Дирекции императорских театров он должен создать макет декорационного оформления и нарисовать комплект эскизов костюмов для исполнения в мастерских Мариинского театра. Не имеющий опыта работы декоратора, Бакст был неприятно поражен теми трудностями, которые его поджидали в процессе постановки. Декоратор-исполнитель, художник О. К. Аллегри, произвольно изменял замысел автора. Сохранилось письмо Бакста к Бенуа, где он жалуется на искажения в орнаментике и колористическом решении декорации: «В конце концов, ни один тон не остался, как у меня на эскизе, ни один орнамент не оставлен в покое...»[1] Бакст пытается осуществлять авторский надзор над исполнением декораций по своим эскизам. Об этом свидетельствуют и дневниковые записи директора императорских театров В. А. Теляковского. 9 января 1902 г. он пишет: «Декорация осматривалась в присутствии самого Бакста, и оказалась она столь слабой, что решили ее дать переделать Аллегри»[2]. Меньше нареканий вызывали у художника костюмы. Вопреки опасениям художника, премьера в высочайшем присутствии прошла удачно. Она состоялась 22 февраля 1902 г., балет-пантомима был поставлен во втором отделении. В первом

[1] Пружан И. Н. Лев Самойлович Бакст // Искусство, 1975. — С. 55.

[2] Теляковский В. А. Дневники директора императорских театров. 1901–1903. — М., 2002. — С. 145.

пел Ф. И. Шаляпин, исполнял в миниатюрной опере Н. А. Римского-Корсакова «Моцарт и Сальери» партию Сальери. Сохранилась программа представления (как тогда называли — «афиша»). Обложка программы также была нарисована Л. Бакстом и составляла стилистически единое целое с декорациями балета. Вскоре после премьеры Бакст получил предложение оформить в Александринском театре трагедию Еврипида «Ипполит», а в Эрмитажном театре балет «Фея кукол» на музыку Й. Байера. Это было лучшим доказательством успеха художника. Его судьба повернулась в сторону театра.

В Санкт-Петербургском государственном музее театрального и музыкального искусства сохранился почти полный комплект рисунков костюмов к «Сердцу маркизы». Все они подписаны Бакстом, выполнены на бумаге «верже» акварелью с добавлением белил. Некоторые детали вынесены на поля и прорисованы пером. Этот прием часто встречается впоследствии в театральных рисунках Бакста, когда он особое внимание уделяет отдельным важным фрагментам костюма или аксессуаров. Аналогичный комплект эскизов имеется в Государственной санкт-петербургской театральной библиотеке. Рисунки выполнены на кальке и в точности повторяют подписные эскизы Бакста. Обобщенная проработка лиц и некоторых деталей платья, почти монохромный колорит заставляют думать, что на полупрозрачную бумагу нанесены копии. Вопрос в том, кто автор этих копий. Не исполнял ли их сам Бакст? По правилам того времени комплект материалов по спектаклю архивировался Дирекцией театров и впоследствии был принят на хранение в театральную библиотеку в художественно-постановочный отдел. С одной стороны, художник пишет в письме от 12 марта 1902 г. А. П. Боткиной (сестре жены): «Боже, что они натворили по моим эскизам! ...К счастью, у меня остались эскизы декораций и костюмы — честь спасена!»[3] С другой стороны, есть запись в дневнике В. А. Теляковского от 13 мая 1902 г.: «Был у меня сегодня Бакст, я ему сказал, что барон Кусов обижен на него вследствие неполучения ответа на письмо по поводу возвращения копий с рисунков пантомимы "Le Coeur de la marquise". Бакст сказал, что рисунки готовы и он их на днях доставит»[4]. Значит, копии существовали и, скорее всего, были сданы на хранение в Дирекцию. Подписные же рисунки Бакста приобретены в 1934 году Ленинградским театральным музеем (ныне Санкт-Петербургский государственный музей театрального и музыкального искусства). На обороте рисунков имеются пометки карандашом с указанием цены и, видимо, номера квитанции. Все эскизы оценены антикварами в 39 рублей за лист. Скорее всего, они были приобретены владельцем в букинистическом магазине, о чем и свидетельствуют цифры на оборотной стороне. Сам Бакст не вернулся в Россию после Первой мировой войны. Большая часть его творческого наследия оказалась за границей — в Европе и Америке. Его ранние театральные работы — эскизы к «Ипполиту» Еврипида, «Эдипу в Колоне» Софокла, «Феи кукол» Й. Байера — чаще встречаются в российских собраниях. Рисунки к «Сердцу маркизы» (первая осуществленная театральная работа Л. Бакста) из их числа.

*Елена ГРУШВИЦКАЯ,*

старший научный сотрудник
Санкт-Петербургского государственного музея
театрального и музыкального искусства

[3] Бакст Л. С. Моя душа открыта.: В 2-х кн. Кн. 2. Письма. — М.: Искусство — XXI век, 2012. — С. 36.
[4] Теляковский В. А. Дневники директора императорских театров. 1901–1903. — М., 2002. — С. 248–249.

# First Work in the Theatre

At the turn of the XIX and XX centuries new people came in the imperial theatres. Since 1899 the Board of Imperial theatres in St. Petersburg was headed by Prince Sergey Mikhailovich Volkonsky (1860–1937), himself an amateur actor and theorist of theatre art. He invited groups of young people, in particular Sergei Diaghilev, to work in a state-owned theatre. Diaghilev was followed by his friends, artists consolidated around A. N. Benois, and his associates. Among them was Lev Samoilovich Bakst, who already managed to prove himself as a talented graphic artist, magazine illustrator and the author of great portraits done in watercolour and crayon.

In 1901, Bakst was commissioned to design a play — French pantomime-ballet "The Heart of the Marquise" to the music of Jean Guirand with prologue and epilogue in verse by Frédéric Febvre. The plot of the pantomime was quite simple: about life in Paris in the times of French Directory. There were few characters: Marquis, Viscount, soubrette Lizette, doctor Piero, a street musician, and a beggar with children. The performance itself was a chamber piece, for a small stage at the Hermitage Theatre. This theatre building, a part of the Winter Palace complex, was designed for ceremonial performances on the occasion of festivities and diplomatic receptions, as well as for domestic performances of the royal family. The main audience were primarily the members of the royal family themselves and their inner circle. At the end of the XIX century, the Ministry of the Imperial Court tried to expand the functions of the theatre. Amateur performances with the participation of grand artists were staged, costume balls held. The performances with guest stars from the Mariinsky, Alexandrinsky, and Mikhailovsky theatres were staged more frequently. The Hermitage Theatre did not have its own troupe; this was only a platform for exclusive productions.

The ballet "The Heart of the Marquise" was entrusted to the famous imperial stage veteran Marius Petipa. Bakst began to work on its design with passion. Under the rules of the Directorate of Imperial Theatres, he had to create a model of a decorative design and draw a set of sketches of costumes for turning them into the costumes in the workshops of the Mariinsky Theatre. Having no experience as a decorator, Bakst was unpleasantly surprised by all the difficulties that awaited him in the process of production. Decorator-artist, painter O. K. Allegri, arbitrarily changed the author's intention. There is a letter of Bakst to Benois, where he complains about the distortion in the decor and colour solution of the sets: "In the end, none of the tones has been done as I had it on the sketch, no pattern has been left alone...". Bakst tried to exercise supervision over the execution of decorations on his sketches. This is evidenced by the diaries of the director of the Imperial Theatres, V. A. Telyakovsky. On January 9, 1902, he wrote: "The decoration was examined in the presence of Bakst himself, and it turned out to be so weak that it was decided to pass it to Allegri". Fewer complaints were caused by the artists' costumes. Contrary to the fears of the artist, the premiere in the Highest presence was successful. It took place on February 22, 1902; the pantomime- ballet was staged in the second act. In the first act there was F. I. Chaliapin performing the part of Salieri in a mini- opera by Rimsky-Korsakov "Mozart and Salieri". The cover of the performance program was also drawn by L. Bakst and was stylistically coherent with the ballet decorations.

Shortly after the premiere, Bakst was invited to decorate Euripides' tragedy "Hippolytus" in the Alexandrinsky theatre, and ballet "The Fairy Doll (Die Puppenfee)" to music by J. Bayer in the Hermitage Theatre. This was the best proof of the artist's success. His fate turned toward the theatre.

At the St. Petersburg State Museum of Theatre and Music remain an almost complete set of drawings of costumes for "The Heart of the Marquise." All of them are signed by Bakst and executed on paper "Verger" in watercolour with the addition of white lead. Some items are brought to the margins and drawn by a pen. This technique is often found later in the theatrical drawings of Bakst, when he gives special attention to certain important pieces of a costume or accessories. A similar set of sketches made on tracing paper are available in the State St. Petersburg Theatre Library. The generalized study of the faces and some details of the dress, almost monochrome colouring make us think that the copies are applied on to translucent coated paper.

The question is who the author of these copies is. Were they made by Bakst himself? According to the rules of that time, the set of materials of the performance was to be archived by the Directorate of the Imperial theatres and was subsequently accepted for storage in a theatrical library. On the one hand, the artist wrote in a letter dated March 12, 1902 to A. P. Botkina (his sister-in-law): "God, what have they done to my sketches! ...Fortunately, I still have sketches of scenery and costumes — my honour is saved!"

On the other hand, there is an entry in V. A. Telyakovsky's diary on May 13, 1902: "Bakst came to me today, I told him that Baron Kusov was upset by him as a result of non-response to a letter about the return of copies of drawings of pantomime "Le Coeur de la marquise". Bakst said that the drawings were ready and he would deliver them the other day". It means there were copies and they are likely to have been deposited in the Directorate.

The drawings signed by Bakst were acquired in 1934 from I. M. Marmorsheyn by Leningrad Theatre Museum (now St. Petersburg State Museum of Theatre and Music). On the reverse side there are notes in pencil indicating the price and apparently the number of a receipt. All sketches were evaluated by antique dealers at 39 roubles per page. Most likely, they were acquired by the owner of a second-hand bookshop, as evidenced by the numbers on the reverse side. Bakst did not return to Russia after the First World War. Most of his creative heritage appeared abroad — in Europe and America. His early theatre work — the sketches for "Hippolytus" by Euripides, "Oedipus at Colonus (Œdipe à Colone)" by Sophocles, "The Fairy Doll" by J. Bayer — can be found in the Russian collections. The drawings for "Heart of the Marquise" (the first embodiment of the theatrical works of L. Bakst) are among them.

*Elena Grushvitskaya,*
Senior Researcher
St. Petersburg State Museum of Theatre and Music

# Сэрца маркізы (Пантаміма)

## Сердце маркизы (Пантомима)
## Le Coeur de la Marquise
## (The Heart of the Marquise) (Pantomime)

Музыка Ж. Гірана. Вершы Ф. Февра
Эрмітажны тэатр, Санкт-Пецярбург
Пастаноўшчык: Петыпа М. І.
Прэм'ера: 22.02.1902

Музыка Ж. Гирана. Стихи Ф. Февра
Эрмитажный театр, Санкт-Петербург
Постановщик: Петипа М. И.
Премьера: 22.02.1902

Music by J. Guirand. Verse by F. Febvre
Hermitage Theatre, St. Petersburg
Choreographer: M. Petipa
Premiere: 22.02.1902




**Праграма спектакляў у Эрмітажным тэатры** (на французскай мове)
14 лютага 1900. Папера, каляровы друк
23,0×17,0 (у два складанні)
СПДМТіММ

**Программа спектаклей в Эрмитажном театре** (на французском языке)
14 февраля 1900. Бумага, цветная печать
23,0×17,0 (в два сложения)
СПГМТиМИ

**Programme of the Performances at the Hermitage Theatre** (in French)
February 14, 1900. Colour printing on paper
23.0×17.0 (folded)
SPSMTM




Бакст Леў
**Эскіз касцюма лёкая з алебардай**
Каля 1902. Папера на кардоне, аловак, акварэль. 29,2×22,4
СПДМТіММ

Бакст Лев
**Эскиз костюма лакея с алебардой**
Около 1902. Бумага на картоне, карандаш, акварель. 29,2×22,4
СПГМТиМИ

Bakst Léon
**Sketch of a Costume of a Footman with a Halberd.** c. 1902. Pencil and watercolour on paper laid on cardboard. 29.2×22.4
SPSMTM




Бакст Леў
**Эскіз касцюма субрэткі Лізэт**
Каля 1902. Папера на кардоне, аловак, акварэль. 29,2×22,5
СПДМТіММ

Бакст Лев
**Эскиз костюма субретки Лизет**
Около 1902. Бумага на картоне, карандаш, акварель. 29,2×22,5
СПГМТиМИ

Bakst Léon
**Sketch of a Costume of Soubrette Lizette**
c. 1902. Pencil and watercolour on paper laid on cardboard. 29.2×22.5
SPSMTM




Бакст Леў
**Эскіз касцюма вулічнага спевака**
Каля 1902. Папера на кардоне, аловак, акварэль. 29,2×22,4
СПДМТіММ

Бакст Лев
**Эскиз костюма уличного певца**
Около 1902. Бумага на картоне, карандаш, акварель. 29,2×22,4
СПГМТиМИ

Bakst Léon
**Sketch of a Street Singer Costume**
c. 1902. Pencil and watercolour on paper laid on cardboard. 29.2×22.4
SPSMTM




Бакст Леў
**Эскіз касцюмаў Беднай жанчыны і яе дачкі.** Каля 1902
Папера на кардоне, аловак, акварэль. 29,2×22,4
СПДМТіММ

Бакст Лев
**Эскиз костюмов Бедной женщины и ее дочери.** Около 1902
Бумага на картоне, карандаш, акварель. 29,2×22,4
СПГМТиМИ

Bakst Léon
**Sketch of Costumes of a Poor Woman and her Daughter.** c. 1902
Pencil and watercolour on paper laid on cardboard. 29.2×22.4
SPSMTM




**Праграма спектакляў у Эрмітажным тэатры** (на рускай і французскай мовах)
Аўтар эскіза: Бакст Леў
22 лютага 1902. Папера, каляровы друк
22,0×15,7 (у два складанні)
СПДМТіММ

**Программа спектаклей в Эрмитажном театре** (на русском и французском языках)
Автор эскиза: Бакст Лев
22 февраля 1902. Бумага, цветная печать
22,0×15,7 (в два сложения)
СПГМТиМИ

**Programme of the Performances at the Hermitage Theatre** (in Russian and French)
Sketch author: Bakst Léon
February 22, 1902. Colour printing on paper. 22.0×15.7 (folded)
SPSMTM

# Тэатр мастака Льва Бакста

Узаемаадносіны мастака Бакста з тэатрам — дзіўная гісторыя фантастычнага поспеху ў жанры, у якім мастак першапачаткова і не думаў працаваць. Леў Самойлавіч Бакст імкнуўся быць паспяховым жывапісцам, партрэтыстам, графікам, хацеў у гэтых сферах мастацтва стаць «самым знакамітым мастаком у свеце». Але лёс распарадзіўся інакш. Бакст атрымаў жаданую сусветную вядомасць, але перш за ўсё як тэатральны мастак. Яго бліскучы творчы альянс з тэатрам аказаўся на здзіўленне ўдалым і плённым.

Здавалася, тэатральная дзейнасць мастаку Баксту была наканавана небам, паколькі загадкавы «свет закулісся ўвесь час прыцягваў яго з нястрымнай сілай»[1]. Парадаксальна, што, дабіўшыся сусветнай вядомасці ў стварэнні касцюмаў і дэкарацый да балетных спектакляў, малады мастак спачатку быў абсалютна абыякавым да гэтага элітарна-вытанчанага жанру. «Ён захапляўся выключна операй і драмай, тады як у балеце... не быў зусім... і нават здзіўляўся, чаму частка яго новых сяброў дапускае само існаванне такога недарэчнага і нават заганнага відовішча. Зусім іншая справа сур'ёзная опера або драма! Спатрэбілася гадоў пяць, каб пад нашым уплывам радыкальна змяніўся такі яго пункт гледжання»[2], — успамінаў мастак А. Бенуа.

Тэатральны дэбют Л. Бакста як сцэнографа адбыўся 22 лютага 1902 г., калі на сцэне Эрмітажнага тэатра была паказана вытанчаная французская пантаміма «Сэрца маркізы», для якой мастак стварыў касцюмы і дэкарацыі. Гэтая першая тэатральная работа так натхніла пачаткоўца, што, як успамінаў А. Бенуа, «ён стварыў як у дэкарацыі, якая перадавала белы з золатам салон эпохі Дырэкторыі, так асабліва ў касцюмах дзеючых асоб сапраўдны маленькі шэдэўр, які ўжо цалкам прадвесціць будучага Бакста "Рускіх балетаў"»[3].

Эскізы тэатральных касцюмаў, створаныя Львом Бакстам для гэтай пастаноўкі, прадстаўляюцца на нашай выставе ўпершыню. Гэтыя эскізы, створаныя сцэнографам пачаткоўцам, на першы погляд, могуць здацца некалькі ілюстрацыйнымі, але яны па-свойму эмацыянальна-пластычныя, адрозніваюцца стараннай прапрацаванасцю дэталей, вытанчанасцю фасонаў, а галоўнае, вытрыманы ў стылістыцы 1790-х гадоў — часу, калі па сюжэце і адбывалася дзеянне п'есы. «Нічога падобнага руская сцэна да таго часу не бачыла, паколькі заўсёды французскія п'есы, выдатна разыграныя першакласнымі артыстамі, выконваліся сярод самых ардынарных дэкарацый, ды і касцюмы калі ў сучасных п'есах і адрозніваліся парыжскай моднасцю, то ў гістарычных былі ніжэй за ўсялякую крытыку»[4], — пісаў мастак А. Бенуа. Сапраўды, па традыцыі, прынятай у казённых тэатрах, для большасці жанравых пастановак звычайна выкарыстоўваліся так званыя «дзяжурныя» дэкарацыі — нейкі стандартны камплект сцэнаграфіі, які меў вельмі апасродкаваныя адносіны да месца і часу дзеяння выкананага твора.

Пачатковец Бакст, складаючы афармленне свайго першага тэатральнага прадстаўлення, парушыў гэтыя руцінныя тра-

---

[1] Бенуа А. Н. Мои воспоминания: В 5 кн. Том 1. Кн. 1, 2, 3. — М.: Наука, 1980. — С. 614.
[2] Там жа, с. 615.
[3] Бенуа А. Н. Мои воспоминания: В 5 кн. Том 1. Кн. 1, 2, 3. — М.: Наука, 1980. — с. 615.
[4] Бенуа А. Н. Мои воспоминания: В 5 кн. Том 1. Кн. 1, 2, 3. — М.: Наука, 1980. — с. 615.



Ганна Паўлава ў касцюме па эскізе Л. Бакста
Балет «Лебедзь». НББ

Анна Павлова в костюме по эскизу Л. Бакста
Балет «Лебедь». НББ

Anna Pavlova in a costume designed by L. Bakst
The ballet «Swan». NLB




Вокладка французскага часопіса
«Comœdia Illustré». 1909 г. НББ

Обложка французского журнала
«Comœdia Illustré». 1909 г. НББ

Cover of the French Magazine
"Comœdia Illustré". 1909. NLB




Іда Рубінштэйн у ролі «Клеапатры»
(Часопіс «Comœdia Illustré»). НББ

Ида Рубинштейн в роли «Клеопатры»
(Журнал «Comœdia Illustré»). НББ

Ida Rubinstein as Cleopatra
(Magazine "Comœdia Illustré"). NLB




Бакст Леў
**Зборнік малюнкаў**
**«Спячая прыгажуня»**
(балет у 5 дзеях паводле казкі Ш. Перо
на музыку П. І. Чайкоўскага). 1922
З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка

Бакст Лев
**Сборник рисунков**
**«Спящая красавица»**
(балет в 5 актах по сказке Ш. Перро
на музыку П. И. Чайковского). 1922
Из корпоративной коллекции Белгазпромбанка

Bakst Léon
**The collection of drawings**
**“Sleeping Beauty”**
(ballet in five acts by Charles Perrault's fairy
tale to music by P. I. Tchaikovsky). 1922
Corporate collection of Belgazprombank




**Паж феі Калібры.** 1922
Храматыпія. Ліст: 28,5×39
Малюнак: 16×23
З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка

**Паж феи Колибри.** 1922
Хромотипия. Лист: 28,5×39
Изображение: 16×23
Из корпоративной коллекции Белгазпромбанка

**Page of the Fairy Coliberi.** 1922
Chromotype. Page 28.5×39
Picture 16×23
Corporate collection of Belgazprombank




**Той, хто трымае парфіру.** 1922
Храматыпія. Ліст: 28,5×39
Малюнак: 18×28,5
З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка

**Держатель порфиры.** 1922
Хромотипия. Лист: 28,5×39
Изображение: 18×28,5
Из корпоративной коллекции Белгазпромбанка

**Phorphyrophores** (Porphyra-Holder)
1922. Chromotype. Page 28.5×39
Picture 18×28.5
Corporate collection of Belgazprombank

# Амерыканскія сезоны Льва Бакста

Выдатны жывапісец і сцэнограф, аўтар мастацкага афармлення шэрагу бліскучых пастановак «Рускіх сезонаў» Дзягілева, Леў Бакст атрымаў прызнанне і як мастак моды.

Вядомасць да Бакста-мадэльера прыйшла ў Парыжы пасля прэм'еры балетаў «Клеапатра» (1909) і «Шахеразада» (1910). Вобразы, створаныя ім для сцэны, знайшлі сваё ўвасабленне ў рэальным жыцці, і вось ужо ў свецкіх салонах Парыжа сталі выразна заўважныя тэатральныя запазычанні: сукенкі з разрэзамі і шаравары, каляровыя парыкі і цюрбаны, доўгія шалікі і буйная, падкрэслена тэатральная біжутэрыя. Мастак атрымліваў прапановы аб супрацоўніцтве ад модных дамоў Worth, Paquin і Poiret, а таксама заключыў кантракты з шэрагам вытворцаў аксесуараў. «Ва ўсіх модных крамах з'явіліся гальштукі "Baks", — пісала газета "Біржавыя ведамасці". — І ўвогуле самым нечаканым вынікам нашага поспеху з'явіўся пераварот у галіне моды. Уявіце сабе, Бакст падвяргаецца цяпер форменнай аблозе парыжанак, асабліва артыстак, якія выпрошваюць у "моднага" мастака малюнкі для сваіх убораў»[1]. Сталы наведвальнік модных салонаў, Бакст апранаў не толькі артыстак (сукенкі па эскізах мастака насіла, у прыватнасці, Іда Рубінштэйн), але і знакамітых свецкіх дам, сярод якіх былі маркіза Луіза Казаці, Гертруда Вандэрбільт Уітні — заснавальніца музея Уітні ў Нью-Ёрку, княгіня Вольга Арлова і нават Мата Хары.

Неўзабаве Бакст стаў папулярным і на іншым беразе Атлантыкі. У 1913 годзе ў розных гарадах Амерыкі была з поспехам паказана першая выстава работ мастака, а ў часопісе Vogue з'явіўся артыкул пра ўплыў Льва Бакста на свет высокай моды і супрацоўніцтва з ім моднага дома Paquin[2]. А пасля дзягілеўскіх гастроляў у Амерыцы, якія адбыліся ў 1916 годзе і падчас якіх сем з васьмі паказаных балетаў былі аформлены Бакстам, імя мастака ўжо было добра вядома амерыканскім аматарам мастацтва.

Да сярэдзіны 1910-х гадоў у Новым Свеце ў Бакста з'явіўся свой прадстаўнік — амерыканка Аліса Уордэр Гэрэт, заступніца і прыхільніца мастака, з якой ён пазнаёміўся ў Парыжы. Пры пасярэдніцтве Алісы Гэрэт работы Бакста набываліся ў многія прыватныя калекцыі, а ў красавіку 1920 года персанальная выстава Льва Бакста адкрылася ў вядомай нью-ёркскай галерэі Недлера. Услед за тым работы мастака экспанаваліся ў Даласе, Лос-Анджэлесе, Сан-Францыска, Санта-Барбары, Дэнверы і Чыкага. У маі 1920 года ў часопісе Vanity Fair выйшаў артыкул Алісы Гэрэт аб Баксце[3], і ў тым жа годзе вокладка жнівеньскага нумара амерыканскага Vogue была ўпрыгожана малюнкам мастака.

Менавіта дзякуючы сяброўству з сямействам Гэрэт і сам Бакст наважыўся распачаць падарожжа за акіян. Асноўнай мэтай

[1] Биржевые ведомости, 1910, 5 июня.

[2] Vogue. 1913. January. «У чытачоў амерыканскага "Вога" з'явілася магчымасць паглядзець на "камбінацыю Бакст-Пакен". Праз некалькі месяцаў дзякуючы поўнастаронкаваму артыкулу, дапоўненаму фатаграфіямі трох ансамбляў, кожны з якіх уключаў капялюш, драпіроўку, абутак, пальчаткі і ўкладку — усё створана Львом Бакстам — адбылося непазбежнае. "Вог" абвясціў аб прыходзе Бакста ў моду. З яго выдатным адчуваннем колеру і лініі і яго пачуццём маляўнічасці ці не натуральна, што ён павінен быў захацець ствараць адзенне, якое будуць насіць *les elegantes* [моднікі] XX стагоддзя». (Цыт. пав.: *Davis M. E.* Classic Chic: Music, Fashion and Modernism. — University of California Press, 2008. — P. 22).

[3] *Garrett, A. W.* Léon Bakst as a Draughtsman // Vanity Fair, 1920. May. — P. 61.



Riotous Colors in MINARET GOWNS

Extraordinary Costumes Designed by the Exiled Russian Artist, Leon Bakst, for a New York Theatrical Production.



Газета «The World Magazine» ад 28 верасня 1913

Газета «The World Magazine» от 28 сентября 1913

Newspaper "The World Magazine". 28 September 1913

Фрагмент інтэр'ера хатняга тэатра сядзібы Эвергрын Хаўс (Балтымор). Аўтар Л. Бакст

Фрагмент интерьера домашнего театра усадьбы Эвергрин Хаус (Балтимор). Автор Л. Бакст

Fragment of the Interior of a Home Theatre of the Estate Evergreen House (Baltimore). Author L. Bakst

яго першай паездкі (лістапад 1922-га — красавік 1923-га) быў вялікі заказ на дэкарыраванне хатняга тэатра ў Эвергрын Хаўс — доме Гэрэт у Балтыморы. Афармленне тэатра можна лічыць адной з самых значных работ Бакста ў галіне дызайну. Галоўнай тэмай у афармленні ўнутранай прасторы тэатра сталі рускія фальклорныя матывы. Стылізаваныя выявы птушак і кветак, а таксама геаметрычны арнамент, які нагадваў узоры народнай вышыўкі, упрыгожылі выбеленыя сцены, калоны і скляпенні памяшканняў. Акрамя таго, Бакст стварыў тры розныя па стылі камплекты тэатральных дэкарацый для хатніх пастановак, а таксама касцюмы, заслону, шторы і свяцільні — усё стала часткай адзінага ансамбля.

Акрамя працы ў Балтыморы, Бакст шмат часу праводзіў у Нью-Ёрку, дзе здымаў студыю і займаўся партрэціраваннем. Ён асабіста ўдзельнічаў у арганізацыі ўласных выстаў і рыхтаваўся да чытання публічных лекцый. «Я ХАЧУ ЗАВАЯВАЦЬ АМЕРЫКУ!»[4] — пісаў Бакст свайму паверанаму Мікалаю Грышкоўскаму і з энтузіязмам разглядаў новыя прапановы аб супрацоўніцтве. Так, па ініцыятыве Бруклінскай музычнай акадэміі і пры інфармацыйнай падтрымцы выдавецкага дома Conde Nast 30 студзеня 1923 года ў бальнай зале атэля «Плаза» ў Нью-Ёрку Леў Бакст прачытаў лекцыю «Мастацтва касцюма і яго законы, іх прымяненне да асобнага чалавека»[5]. Больш за 1500 чалавек слухала выступленне мастака, у якім ён сфармуляваў асноўныя прынцыпы падбору адзення, гаварыў пра важнасць мастацтва моднага дызайну, параўноўваючы стварэнне касцюма з працай архітэктара, тлумачыў, як карэкціраваць постаць з дапамогай фасонаў, кветак і арнаменту, гаварыў пра неабходнасць звяртаць увагу на дэталі і аксесуары і пра тонкасці адаптацыі навамодных тэндэнцый.

Асобная частка выступлення была прысвечана ўплыву рускага народнага мастацтва на сучасную моду і рускаму арнаменту. Адрэдагаваны тэкст лекцыі быў апублікаваны ў часопісе Vogue[6]. Другая лекцыя Бакста пад назвай «Колер і касцюм»[7] была прачытана ў Таронта 5 сакавіка 1923 г. і сабрала ўдвая больш народу.

Незадоўга да вяртання ў Парыж, у красавіку 1923 года, Бакст пазнаёміўся з тэкстыльным прамыслоўцам Артурам Селігам, які прапанаваў мастаку выканаць серыю арнаментальных малюнкаў для далейшага іх друку на шоўку. Бакст з энтузіязмам узяўся за выкананне заказу, бо раней, ствараючы сцэнічны касцюм або модную сукенку, ён часцей за ўсё быў вымушаны арыентавацца на ўжо гатовыя ўзоры тканін, толькі ў рэдкіх выпадках маючы магчымасць самому ствараць іх малюнак. На працягу наступных месяцаў для Селіга мастаком была выканана значная колькасць эскізаў. У аснову іх малюнка былі пакладзены індакітайскія, індзейскія, мексіканскія, перуанскія і, мабыць, прапанаваныя Бакстам, рускія матывы.

Падчас свайго другога візіту ў Амерыку (студзень — красавік 1924 г.) Бакст працягнуў працу над малюнкамі тканін. Мастак чэрпаў натхненне ў паездках па краіне і вывучэнні культуры карэнных плямёнаў. У сваіх шматлікіх амерыканскіх інтэрв'ю, а таксама ў публічнай лекцыі «Шляхі класіцызму і сучаснае мастацтва», прачытанай ім тройчы ў Ан-Арбары (штат Мічыган), у Вашынгтоне і ў Лос-Анджэлесе, Бакст нязменна заклікаў маладых мастакоў імкнуцца да стварэння сапраўды амерыканскай школы жывапісу. «Стварыце амерыканскую школу з навакольнай атмасферы. <...> Перш за ўсё, Амерыка валодае самым неабходным элементам выяўленчага мастацтва, яго асновай — колерам. <...> Тое, што я бачыў з раннеамерыканскага, я маю на ўвазе індзейскага мастацтва, пераконвае мяне ў тым, што моцны, палымяны, бескампрамісны колер — гэта нешта накшталт карэннага амерыканскага прадукту»[8].

Арнаменты для тканін самога Бакста, многія з якіх былі прынятыя да прамысловай вытворчасці, таксама адказвалі гэтым прынцыпам. Іх яркія жывыя колеры і графічны стылізаваны малюнак хутка заваёўвалі папулярнасць, і ўжо ў канцы 1924 года ў Нью-Ёрку рыхтаваўся да адкрыцця магазін тканін Артура Селіга. «Матэрыі мае разыш-

---

4 Бакст, Л. С. Письмо Н. О. Гришковскому от 17 июня 1923 г. из Парижа // Арх. б-ка Российского фонда культуры, Ф. Н. О. Гришковского. — С. 3.
5 ОР ГТГ. Ф. 111. Ед. хр. 555.
6 Vogue. 1923. December.
7 ОР ГТГ. Ф. 111. Ед. хр. 552.
8 ОР ГТГ, Ф. 111, Ед. хр. 574.



Under the auspices of
T. EATON Co. LIMITED

*Lecture on*
"Color & Costume"
*By*
LEON BAKST

*Introduced by*
SIR EDMUND WALKER, C.V.O., LL.D., D.C.L.

*Interpreted by*
DORA MAVOR MOORE

RUSSIAN DANCER—PORTRAIT BY BAKST
*Metropolitan Museum—New York*

LEON BAKST

*is one of the most notable figures in the art world. In color and rhythm his watercolors are uniquely superb. As designer of costumes and settings for the Ballet Russe in London and Paris he has won imperishable fame.*

Запрашэнне на лекцыю
Льва Бакста «Колер і касцюм»
1923. ДТГ

Приглашение на лекцию
Льва Бакста «Цвет и костюм»
1923. ГТГ

Invitation to Léon Bakst's Lecture
"Color & Costume". 1923. STG



111/2580

*In honour of*
*Mr. Leon Bakst*

*Mr. and Mrs. William May Wright*
*request the pleasure of*
*Mr Leon Bakst's*
*company at a musicale and dance*
*on Sunday evening, the eighth of April*
*at half after nine o'clock*
*at Eight hundred and sixty-seven A. Madison Avenue*

*R.S.V.P.*

Be careful not to catch your finger in the elevator door this time

111/2581

*Bal Bakst*
*It is requested that*
*fancy costume or head dress*
*be worn preferably those*
*of Bakst design*

Запрашэнне і гасцявая картка бала «Бакст»
Нью-Ёрк. 8 красавіка 1923. ДТГ

Приглашение и гостевая карточка бала «Бакст»
Нью-Йорк. 8 апреля 1923. ГТГ

Invitation and Guest Card for the"Bakst" Ball
New York. 8 April 1923. STG

ліся па ўсёй Амерыцы з велізарным фурорам — усе дамы свету зараз фарсяць у іх...»[9] — пісаў Бакст сястры. «Мае матэрыі карыстаюцца па ўсёй Амерыцы велізарным попытам і поспехам»[10], — паўтарае ліст, адрасаваны мастаком Мікалаю Грышкоўскаму. Выпраўляючыся ў канцы вясны 1924 года ў Парыж, Бакст натхнёна планаваў далейшую экспансію ў свет моды — мастак разлічваў на адкрыццё свайго ўласнага Дома мод. Аднак заўчасная смерць Льва Бакста абарвала ўсе планы.

*Варвара ЕРМАКОВА,*
мастацтвазнаўца

---

9 ОР ГТГ, Ф. 111, Ед. хр. 2644, Л. 2.
10 Бакст, Л. С. Письмо Н. О. Гришковскому (январь — февраль 1924 г.) из Эвергрин Хаус (Балтимор) // Арх. б-ка Российского фонда культуры, Ф. Н. О. Гришковского.

# Американские сезоны Льва Бакста

Выдающийся живописец и сценограф, автор художественного оформления ряда блистательных постановок «Русских сезонов» Дягилева, Лев Бакст получил признание и как художник моды.

Известность к Баксту-модельеру пришла в Париже после премьеры балетов «Клеопатра» (1909) и «Шахерезада» (1910). Образы, созданные им для сцены, нашли свое воплощение в реальной жизни, и вот уже в светских салонах Парижа стали отчетливо видны театральные заимствования: платья с разрезами и шаровары, цветные парики и тюрбаны, длинные шарфы и крупная, подчеркнуто театральная бижутерия. Художник получал предложения о сотрудничестве от модных домов Worth, Paquin и Poiret, а также заключил контракты с рядом производителей аксессуаров. «Во всех модных магазинах появились галстуки “Baks”, — писала газета “Биржевые ведомости”. — Да, вообще, самым неожиданным последствием нашего успеха явился переворот в области моды. Представьте себе, Бакст подвергается теперь форменной осаде парижанок, особенно артисток, выпрашивающих у “модного” художника рисунки для своих нарядов»[1]. Завсегдатай модных салонов, Бакст одевал не только артисток (платья по эскизам художника носила, в частности, Ида Рубинштейн), но и именитых светских дам, среди которых были маркиза Луиза Казати, Гертруда Вандербильт Уитни — основательница музея Уитни в Нью-Йорке, княгиня Ольга Орлова и даже Мата Хари.

Вскоре Бакст приобрел известность и на другом берегу Атлантики. В 1913 году в разных городах Америки была с успехом показана первая выставка работ художника, а в журнале Vogue появилась статья о влиянии Льва Бакста на мир высокой моды и сотрудничестве с ним модного дома Paquin[2]. А после дягилевских гастролей в Америке, состоявшихся в 1916 году, во время которых семь из восьми показанных балетов были оформлены Бакстом, имя художника уже было хорошо известно американским любителям искусства.

К середине 1910-х годов в Новом Свете у Бакста появился свой представитель — американка Алиса Уордер Гэррет, покровительница и почитательница художника, с которой он познакомился в Париже. При посредничестве Алисы Гэррет работы Бакста приобретались во многие частные собрания, а в апреле 1920 года персональная выставка Льва Бакста открылась в известной нью-йоркской галерее Недлера. Вслед за тем работы художника экспонировались в Далласе, Лос-Анджелесе, Сан-Франциско, Санта-Барбаре, Денвере и Чикаго. В мае 1920 года в журнале Vanity Fair вышла статья Алисы Гэррет о Баксте[3],

[1] Биржевые ведомости, 1910, 5 июня.

[2] Vogue. 1913. January. «У читателей американского “Вога” появилась возможность взглянуть на “комбинацию Бакст-Пакен”. Несколько месяцев спустя благодаря полностраничной статье, дополненной фотографиями трех ансамблей, каждый из которых включал шляпу, драпировку, обувь, перчатки и укладку — все создано Львом Бакстом — произошло неизбежное. “Вог” объявил о приходе Бакста в моду. С его прекрасным чутьем цвета и линии и его чувством живописности не естественно ли, что он должен был захотеть создавать одежду, которую будут носить les elegantes [модники] XX века». (Цит. по: *Davis M. E.* Classic Chic: Music, Fashion and Modernism. — University of California Press, 2008. — P. 22).

[3] *Garrett, A. W.* Léon Bakst as a Draughtsman // Vanity Fair, 1920. May. — P. 61.

и в том же году обложка августовского номера американского Vogue была украшена рисунком художника.

Именно благодаря дружбе с семейством Гэрретов и сам Бакст решился предпринять путешествие за океан. Основной целью его первой поездки (ноябрь 1922-го — апрель 1923-го) был большой заказ на декорирование домашнего театра в Эвергрин Хаус — доме Гэрретов в Балтиморе. Оформление театра можно считать одной из самых значительных работ Бакста в области дизайна. Главной темой в оформлении внутреннего пространства театра стали русские фольклорные мотивы. Стилизованные изображения птиц и цветов, а также геометрический орнамент, напоминающий узоры народной вышивки, украсили выбеленные стены, колонны и своды помещений. Кроме того, Бакст создал три разных по стилю комплекта театральных декораций для домашних постановок, а также костюмы, занавес, шторы и светильники — все стало частью единого ансамбля.

Помимо работы в Балтиморе, Бакст много времени проводил в Нью-Йорке, где снимал студию и занимался портретированием. Он также лично участвовал в организации собственных выставок и готовился к чтению публичных лекций. «Я ХОЧУ ЗАВОЕВАТЬ АМЕРИКУ!»[4] — писал Бакст своему поверенному Николаю Гришковскому и с энтузиазмом рассматривал новые предложения о сотрудничестве. Так, по инициативе Бруклинской музыкальной академии и при информационной поддержке издательского дома Conde Nast 30 января 1923 г. в Бальном зале отеля «Плаза» в Нью-Йорке Лев Бакст прочел лекцию «Искусство костюма и его законы, их применение к отдельной личности»[5]. Более 1500 человек слушали выступление художника, в котором он сформулировал основные принципы подбора одежды, говорил о важности самого искусства модного дизайна, сравнивая создание костюма с работой архитектора, объяснял, как корректировать фигуру с помощью фасонов, цветов и орнамента, говорил о необходимости обращать внимание на детали и аксессуары и о тонкостях адаптации новомодных тенденций.

Отдельная часть выступления была посвящена влиянию русского народного искусства на современную моду и русскому орнаменту. Отредактированный текст лекции был опубликован в журнале Vogue[7]. Вторая лекция Бакста под названием «Цвет и костюм»[7] была прочитана в Торонто 5 марта 1923 г. и собрала вдвое больше людей.

Незадолго до возвращения в Париж в апреле 1923 года Бакст познакомился с текстильным промышленником Артуром Селигом, который предложил художнику выполнить серию орнаментальных рисунков для последующей их печати на шелке. Бакст с энтузиазмом принялся за выполнение заказа, ведь ранее, создавая сценический костюм или модное платье, он чаще всего был вынужден ориентироваться на уже готовые образцы тканей, лишь в редких случаях имея возможность самому создавать их рисунок. В течение последующих месяцев для Селига художником было выполнено значительное количество эскизов. В основу их рисунка легли индокитайские, индейские, мексиканские, перуанские и, видимо, предложенные самим Бакстом, русские мотивы.

Во время своего второго визита в Америку (январь — апрель 1924 года) Бакст продолжил работу над рисунками тканей. Художник черпал вдохновение в поездках по стране и изучении культуры коренных племен. В своих многочисленных американских интервью, а также в публичной лекции «Пути классицизма и современное искусство», прочитанной им трижды в Анн-Арбор (штат Мичиган), в Вашингтоне и в Лос-Анджелесе, Бакст неизменно призывал молодых художников стремиться к созданию подлинно американской школы живописи. «Создайте американскую школу из окружающей вас атмосферы. <...> Прежде всего, Америка обладает самым необходимым элементом изобразительного искусства, его основой — цветом. <...> То, что я видел из раннеамериканского, я имею в виду индейского искусства,

4 Бакст, Л. С. Письмо Н. О. Гришковскому от 17 июня 1923 г. из Парижа // Арх. б-ка Российского фонда культуры, Ф. Н. О. Гришковского. — С. 3.

5 ОР ГТГ. Ф. 111. Ед. хр. 555.

6 Vogue. 1923. December.

7 ОР ГТГ. Ф. 111. Ед. хр. 552.

убеждает меня в том, что сильный, пылающий, бескомпромиссный цвет — это что-то вроде коренного американского продукта»[8].

Арнаменты для тканей самого Бакста, многие из которых были приняты к промышленному производству, также отвечали этим принципам. Их яркие живые цвета и графичный стилизованный рисунок быстро завоевывали популярность, и уже в конце 1924 года в Нью-Йорке готовился к открытию магазин тканей Артура Селига. «Материи мои разошлись по всей Америке с огромным фурором — все дамы света теперь щеголяют в них...»[9] — писал Бакст сестре. «Мои материи пользуются по всей Америке огромным спросом и успехом»[10], — вторит письмо, адресованное художником Николаю Гришковскому. Отправляясь в конце весны 1924 года в Париж, Бакст воодушевленно планировал дальнейшую экспансию в мир моды — художник рассчитывал на открытие своего собственного Дома мод. Однако преждевременная смерть Льва Бакста оборвала все планы.

*Варвара ЕРМАКОВА,*
искусствовед

[8] ОР ГТГ, Ф. 111, Ед. хр. 574.
[9] ОР ГТГ, Ф. 111, Ед. хр. 2644, Л. 2.
[10] Бакст, Л. С. Письмо Н. О. Гришковскому (январь — февраль 1924 г.) из Эвергрин Хаус (Балтимор) // Арх. б-ка Российского фонда культуры, Ф. Н. О. Гришковского.

# American Seasons of Léon Bakst

An outstanding artist and stage designer, author of the decoration of a number of brilliant productions of Diaghilev's "Russian Seasons", Léon Bakst also gained recognition as a fashion designer.

Bakst-designer became famous in Paris after the premiere of the ballet "Cleopatra" (1909) and "Scheherazade" (1910). The images he created for the stage were reflected in real life. The artist began to receive offers of cooperation from fashion houses of Worth, Paquin and Poiret, and signed contracts with a number of accessories manufacturers. A fashion salons regular, Bakst dressed fine ladies, among whom were the Marquise Luisa Casati, Gertrude Vanderbilt Whitney, Alice Garrett and even Mata Hari. Soon Bakst gained fame and on the other side of the Atlantic. In 1913, the first exhibition of the artist's works was successfully shown in different cities of America. After Diaghilev's tour in the United States, held in 1916, the artist's name became already well known to American art fans. Thanks to the mediation of Alice Garrett, the patron and admirer of Bakst, whom he met in Paris, the artist's works were exhibited in the United States and bought by many private collections. In the early 1920s, Bakst decided to take a trip overseas. The main purpose of his first visit (November 1922 — April 1923) was a big order for the decoration of a home theatre in Evergreen House — the House of the Garrets in Baltimore. In addition, in January 1923 in the Ballroom of the hotel "Plaza" in New York, Léon Bakst gave a lecture "The Art of Costume and its laws, their application to an individual". The second lecture titled "The color and costume" was delivered in Toronto in March 1923. Both speeches were a great success. In April 1923, Bakst met a textile industrialist Arthur Selig, who invited the artist to perform a series of ornamental designs for printing on silk. Bakst worked on the order during the next months and his second visit to America (January — April 1924). The basis of the fabric patterns was formed by Indochinese, Mexican, Peruvian and Russian motifs. In addition, the artist was inspired by the art of the Native Americans. Bakst consistently urged young artists to strive to create a truly American school of painting. "Create the American school out of the atmosphere around you <...> What I saw from the Early American, I refer to the Indian art, convinces me that a strong, glowing, uncompromising colour is something like a Native American product". Bakst's drawings for fabrics, many of which were used in industrial production, were also consistent with these principles. Their bright vivid colours and graphically stylized drawing rapidly gained popularity. "My fabrics dispersed across the United States with a huge furore — all the ladies are now flaunting in them..." — wrote Bakst to his sister. Leaving for Paris in late spring 1924, Bakst enthusiastically planned a further expansion into the world of fashion — he hoped to open his own fashion house. However, the premature death of the artist broke all his plans.

*Varvara Ermakova,*
Art Historian



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Раслінны арнамент»**
(Матыў мастацтва індзейцаў пуэбла)
Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Растительный орнамент»**
(Мотив искусства индейцев пуэбло)
Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Floral Ornament"**
(Art Motif of Pueblo Peoples)
Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Ёлачкі».** Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Ёлочки».** Фрагмент
Шелк .140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Herringbone".** Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Сабор».** Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Собор».** Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Cathedral".** Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Разеты»** (Матыў мастацтва індзейцаў пуэбла). Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Розетты»** (Мотив искусства индейцев пуэбло). Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Rosettes"** (Art Motif of Pueblo Peoples). Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Жар-птушка».** Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Жар-птица».** Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "The Firebird".** Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Птушкі»** (Матыў мастацтва індзейцаў пуэбла). Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Птицы»** (Мотив искусства индейцев пуэбло). Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Birds"** (Art Motif of Pueblo Peoples). Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Крылатае бостваа»** (Матыў мастацтва індзейцаў пуэбла). Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Крылатое божество»** (Мотив искусства индейцев пуэбло). Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Winged Deity"** (Art Motif of Pueblo Peoples). Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Алені і птушкі»** (Матыў мастацтва індзейцаў пуэбла). Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Олени и птицы»** (Мотив искусства индейцев пуэбло). Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl “Deer and Birds”** (Art Motif of Pueblo Peoples). Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Хустка «Авалы».** Фрагмент
Шоўк. 140×140
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Платок «Овалы».** Фрагмент
Шелк. 140×140
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Shawl "Ovals".** Fragment
Silk. 140×140
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Шалік «Пальма».** Фрагмент
Шоўк. 110×200
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Шарф «Пальма».** Фрагмент
Шелк. 110×200
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Scarf "Palm".** Fragment
Silk. 110×200
Kournikova Gallery (Moscow)




Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Шалік «Геаметрычны матыў мастацтва індзейцаў пуэбла».** Фрагмент
Шоўк. 110×200
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Шарф «Геометрический мотив искусства индейцев пуэбло».** Фрагмент
Шелк. 110×200
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Scarf "Geometric Art Motif of Pueblo Peoples".** Fragment
Silk. 110×200
Kournikova Gallery (Moscow)



Бакст Леў (аўтар эскіза)
**Узор тканіны ў рулоне «Кветкавы».**
Фрагмент
Шоўк. 140×500
Галерэя «Нашы мастакі» (г. Масква)

Бакст Лев (автор эскиза)
**Образец ткани в рулоне «Цветочный».**
Фрагмент
Шелк. 140×500
Галерея «Наши художники» (г. Москва)

Bakst Léon (author of the sketch)
**Sample of a Cloth in a Roll “Floral”.**
Fragment
Silk. 140×500
Kournikova Gallery (Moscow)

# Жыццё і творчасць Льва Бакста (1866–1924)




## Асноўныя падзеі

**1866**

Нарадзіўся 27 красавіка/9 мая ў г. Гродна ў сям'і Ізраіля Самуіла-Баруха Рабіновіча (патомнага ганаровага грамадзяніна) і Басі Розенберг. Пры нараджэнні атрымаў імя Лейб-Хаім. Прозвішча — Розенберг (па прозвішчы дзеда, які ўсынавіў бацьку будучага мастака).

**1883**

Скончыў 6-ю класічную гімназію Санкт-Пецярбурга і па парадзе скульптара Марка Антакольскага паступіў вольным слухачом у Імператарскую Акадэмію мастацтваў, дзе вучыўся ў І. Л. Аскназія, П. П. Чысцякова, К. Б. Веніга.

**1887**

Пакінуў акадэмію на падставе хваробы вачэй, на самай справе — у выніку канфлікту з-за прадстаўленай ім на конкурс карціны «Аплакванне Хрыста».

**1887–1890**

Працаваў у майстэрні навучальных дапаможнікаў, арганізаванай пісьменнікам і педагогам А. М. Канаевым. Ілюстраваў дзіцячыя кнігі для выдавецтваў А. А. Халмушына і А. Ф. Дэўрыена.

**1889**

Пачаў падпісваць свае працы як Бакст (скарочана ад Бакстэр — прозвішча бабулі па матчынай лініі).

**1890–1893**

Рабіў рэпарцёрскія эскізы для часопісаў «Мастак» і «Пецярбургскае жыццё», пісаў карціны ў манеры перадзвіжнікаў («П'яны факельшчык», «Старая яўрэйка», «Кадрыля на Калядны»).

**1890**

Пачаў вывучаць тэхніку акварэлі пад кіраўніцтвам акадэміка Альберта М. Бенуа, пазнаёміўся з яго малодшым братам Аляксандрам М. Бенуа і яго асяроддзем. Прыняў удзел у 1-й выставе малюнкаў рускіх мастакоў (*Blanc et noir*) у Санкт-Пецярбургу.

**1891**

Падарожнічаў па Германіі, Італіі, Іспаніі і Францыі, надоўга спыняўся ў Парыжы. Удзельнічаў у 11-й акварэльнай выставе Таварыства рускіх акварэлістаў у Санкт-Пецярбургу.

**1892**

Напісаў партрэт А. М. Бенуа, акварэлі «На схіле гадоў», «Успамін», «Парыжанка».

Выстаўляўся на 12-й акварэльнай выставе Таварыства рускіх акварэлістаў і выставе ў Таварыстве заахвочвання мастацтваў у Санкт-Пецярбургу.

**1893**

Зноў прыехаў у Парыж, дзе працаваў з перапынкамі да 1899-га. Займаўся ў студыі Ж.-Л. Жэрома, у акадэміі Р. Жульена і ў А. Эдэльфельта.

Па заказе вял. князя Аляксея Аляксандравіча пачаў пісаць карціну «Сустрэча адмірала Авелана ў Парыжы». Падрыхтоўчыя эцюды да гэтай карціны выстаўляў у салоне газеты *Figaro*.

Прымаў удзел у 13-й акварэльнай выставе Таварыства рускіх акварэлістаў у Санкт-Пецярбургу.

**1894**

Прымаў удзел у 14-й акварэльнай выставе Таварыства рускіх акварэлістаў у Санкт-Пецярбургу.

**1895**

Выканаў партрэт В. Ф. Нувеля, акварэлі «Малады дагамеец», «Фінскі рыбак».

Экспанаваў свае працы на 15-й акварэльнай выставе Таварыства рускіх акварэлістаў у Санкт-Пецярбургу.

**1896**

Стварыў шэраг партрэтаў у тэхніцы акварэлі і пастэлі (А. К. Бенуа, М. Жасэ), эцюды нармандскага селяніна, парыжскага падзёншчыка.

Прыняў удзел ва Усерасійскай выставе ў Ніжнім Ноўгарадзе, Міжнароднай выставе ў Берліне.

**1897**

Выканаў партрэты Д. У. Філосафава, С. П. Дзягілева, пляменніцы Марусі Клячко, К. А. Сомава.

Удзельнічаў у 2-й акварэльнай выставе Таварыства рускіх акварэлістаў у Маскве, выставе калекцыі малюнкаў і акварэляў княгіні М. К. Ценішавай у залах Таварыства заахвочвання мастацтваў у Санкт-Пецярбургу.

**1898**

Стаў адным з заснавальнікаў творчага аб'яднання «Свет мастацтва». Прыняў удзел у выставе рускіх і фінляндскіх мастакоў у Санкт-Пецярбургу.

**1899**

Выканаў партрэты І. І. Левітана і Ф. А. Малявіна.

Прыняў удзел у Міжнароднай мастацкай выставе Сецэсіён (Мюнхен) і выставе карцін часопіса «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу.

**1899–1907**

Стаў галоўным ілюстратарам часопіса «Свет мастацтва», удзельнічаў у афармленні «Штогодніка імператарскіх тэатраў», часопісаў «Мастацкія скарбы Расіі» (1901–1902), «Шалі» (1904–1909), «Залатое руно» (1906), «Апалон» (1909), маляваў для часопіса «Сатырыкон» (1908), афармляў паштоўкі для Абшчыны св. Яўгеніі (1902–1905). Афармляў кнігі для пецярбургскіх і маскоўскіх выдавецтваў, паэтычныя зборнікі «Снежная маска» А. А. Блока (СПб., 1907). Графічны стыль, распраца-

ваны ім сумесна з А. М. Бенуа і К. А. Сомавым, на два дзесяцігоддзі стаў дамінуючым у афармленні кніг і часопісаў. У жывапісе і станковай графіцы выкарыстаў вопыт розных еўрапейскіх школ і напрамкаў — ад салоннага акадэмізму да імпрэсіянізму.

**1900**

Завяршыў працу над карцінай «Сустрэча адмірала Авелана ў Парыжы». Выканаў літаграфію партрэта З. М. Гіпіус, А. Я. Малчанава, А. К. Бенуа.

Удзельнічаў у выставе карцін часопіса «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу.

**1901**

Выканаў карціну «Сіямскі свяшчэнны танец», партрэт В. В. Розанава. Упершыню ўдзельнічаў у афармленні тэатральнай пастаноўкі: выканаў эскіз дэкарацыі другой карціны і эскізы касцюмаў для неажыццёўленай пастаноўкі балета «Сільвія» на сцэне Марыінскага тэатра.

Прыняў удзел у 3-й выставе карцін часопіса «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу.

**1902**

Дэбютаваў у тэатры ў якасці сцэнографа: стварыў дэкарацыі і касцюмы для пантамімы «Сэрца маркізы» ў харэаграфіі М. Петыпа (Эрмітажны тэатр), аформіў трагедыю «Іпаліт» Эўрыпіда ў пастаноўцы Ю. Азароўскага (Александрынскі тэатр). Намаляваў адну з самых вядомых сваіх карцін «Вячэра». Працаваў над малюнкамі і афармленнем вокладак для часопіса «Свет мастацтва».

Прыняў удзел у 4-й выставе карцін часопіса «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу і 1-й выставе карцін часопіса «Свет мастацтва» ў Маскве.

**1903**

Прыняў лютэранства, каб ажаніцца з Любоўю Паўлаўнай Грыцэнка (дачка П. М. Траццякова і ўдава мастака М. М. Грыцэнка). Напісаў яе партрэт. Выканаў эскізы дэкарацый і касцюмаў для пастаноўкі ў Эрмітажным тэатры балета «Фея лялек».

Удзельнічаў у 5-й выставе карцін часопіса «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу, Міжнароднай выставе Таварыства мастакоў Мюнхена.

**1904**

Аформіў пастаноўку трагедыі Сафокла «Эдып у Калоне» (Александрынскі тэатр) і драматычнага прадстаўлення «Антыгона» для Іды Рубінштэйн на сцэне Новага тэатра Л. Б. Яворскай.

Экспанаваў працы на выставе Таварыства вытанчаных мастацтваў у Парыжы, на выставе карцін Саюза рускіх мастакоў у Санкт-Пецярбургу і Маскве.

**1905**

Намаляваў партрэт Андрэя Белага, Іды Рубінштэйн у ролі Антыгоны, Марыны Грыцэнка (падчарыцы мастака).

**1906**

Выканаў пано «Элізіум», «Партрэт С. П. Дзягілева з няняй», партрэт К. А. Сомава. Ажыццявіў агульнае афармленне выставы рускага мастацтва, арганізаванай С. П. Дзягілевым у парыжскім Восеньскім салоне; быў абраны сапраўдным членам салона і стаў кавалерам ордэна Ганаровага легіёна. Разам з М. Дабужынскім прыступіў да кіраўніцтва мастацкай школай Л. М. Званцавай у Пецярбургу, у якой выкладаў жывапіс да 1910 г.

Удзельнічаў у мастацкай выставе «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу, выставе рускага мастацтва ў Парыжы і Берліне, выставе афіш і плакатаў, наладжанай Таварыствам імя Леанарда да Вінчы ў Маскве ў Політэхнічным музеі.

**1907**

Разам з мастаком Валянцінам Сяровым падарожнічаў па Грэцыі. Напісаў цыкл пейзажаў. Дарожныя нататкі Л. Бакста «Сяроў і я ў Грэцыі» былі апублікаваны ў 1923 г. берлінскім выдавецтвам «Слова».

Выканаў эскізы касцюмаў для Г. Паўлавай і М. Обухава (вальс «Месяцовы прывід» на музыку Ф. Шапэна, першая рэдакцыя балета «Шапэніяна», пастаўленага ў Марыінскім тэатры). Стварыў эскіз касцюма лебедзя для канцэртнага нумара Г. Паўлавай «Лебедзь» на музыку К. Сен-Санса ў харэаграфіі М. Фокіна.

21 верасня нарадзіўся сын, Андрэй Бакст (1907–1972), які стаў потым мастаком тэатра і кіно.

Удзельнічаў у выставе «Сучасныя плыні ў мастацтве» ў Санкт-Пецярбургу, Сусветнай выставе ў Венецыі, выставе Восеньскага салона ў Парыжы, выставе карцін Саюза рускіх мастакоў у Маскве.

**1908**

Напісаў дэкаратыўнае пано «Старажытны жах» (*Terror Antiquus*).

Удзельнічаў у выставе Восеньскага салона ў Парыжы, першай калектыўнай выставе сучасных рускіх мастакоў «Венскі Сецэсіён».

**1909**

Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы штогадовых гастроляў рускага тэатра ў Парыжы, так званых «Рускіх сезонаў» — тэатральнай антрэпрызы С. Дзягілева. Разам з мастаком А. М. Бенуа і харэографам М. М. Фокіным Л. Бакст стаў яго бліжэйшым паплечнікам на многія гады.

Як тэатральны мастак атрымаў вядомасць, стварыўшы сцэнаграфію і касцюмы для мімадрамы «Клеапатра» ў харэаграфіі М. Фокіна (тэатр «Шатле»). Стварыў касцюмы асобных персанажаў і для іншых спектакляў антрэпрызы С. Дзягілева (опера «Юдзіф», балет «Спячая прыгажуня», дывертысмент «Баль» і інш.). Падчас адпачынку ў Венецыі напісаў шэраг маляўнічых карцін: «Вацлаў Ніжынскі на пляжы», «Ніжынскі і іншыя артысты на пляжы», «На пляжы Лідо», «Айседора Дункан на пляжы».

**1910**

Стаў адным з арганізатараў ананімнай выставы работ вучняў мастацкай школы, якой сам кіраваў. Апублікаваў шэраг палемічных артыкулаў аб мастацтве, тэатры, педагогіцы і эстэтыцы побыту.

Пасяліўся ў Парыжы. Напярэдадні ад'езду развёўся з жонкай — Л. П. Грыцэнка. Зноў прыняў юдаізм, чым наклікаў на сябе нападкі чарнасоценнай прэсы.

Аформіў балет «Карнавал» (музыка Р. Шумана, харэаграфія М. Фокіна). Бліскучая прэм'ера балета «Шахеразада» ў парыжскай Гранд-Опера (музыка М. А. Рымскага-Корсакава, харэаграфія М. Фокіна), для якой мастак стварыў дэкарацыі і касцюмы, прынесла яму сусветную славу. Стварыў два знакавыя эскізы (касцюмы царэўны Ненагляднай Красы і Жар-птушкі) да пастаноўкі балета «Жар-птушка» (музыка І. Ф. Стравінскага, харэаграфія М. М. Фокіна). Распрацаваў эскізы сучасных сукенак для модных дамоў Парыжа.

Удзельнічаў у выставе «Рускія мастакі. Тэатральныя дэкарацыі і касцюмы» ў парыжскай галерэі М. Бернгейма, у Міжнароднай выставе ў Бруселі.

**1911**

Быў прызначаны мастацкім кіраўніком антрэпрызы С. Дзягілева.

У Монтэ-Карла аформіў балетныя пастаноўкі антрэпрызы С. Дзягілева «Правід ружы» (музыка К. М. Вэбера, харэаграфія М. Фокіна), «Нарцыс» (сцэнарый Л. Бакста, музыка М. М. Чарапніна, харэаграфія М. Фокіна). Для трупы Іды Рубінштэйн стварыў касцюмы і дэкарацыі да пастаноўкі містэрыі «Пакутніцтва святога Себасцьяна» (музыка К. Дэбюсі, харэаграфія М. Фокіна). Стварыў партрэты Ж. Както, Д. Дафа.

У гэтым жа годзе адкрылася персанальная выстава «Малюнкі Л. Бакста (касцюмы і дэкарацыі)» у Парыжскім музеі дэкаратыўных мастацтваў. Прыняў удзел у выставе Восеньскага салона ў Парыжы, міжнароднай выставе ў Рыме, выставе «Мастацтва ў кнізе і плакаце» ў Санкт-Пецярбургу.

**1912**

У час знаходжання ў Пецярбургу атрымаў прадпісанне пакінуць сталіцу як іўдзей. Хадайніцтва аб прадастаўленні віду на жыхарства, падтрыманае вял. княгіняй Марыяй Паўлаўнай, было адхілена імператарам.

У рамках «Рускіх сезонаў» у парыжскім тэатры «Шатле» аформіў наступныя балеты: «Тамар» (сцэнарый Л. Бакста па матывах верша М. Ю. Лермантава, музыка М. Балакірава, харэаграфія М. Фокіна), «Дафніс і Хлоя» (музыка М. Равэля, харэаграфія М. Фокіна), «Сіні Бог» (харэаграфія М. Фокіна), «Пасляпаўдзённы адпачынак фаўна» (музыка К. Дэбюсі, сцэнарый і харэаграфія В. Ніжынскага). Для трупы Іды Рубінштэйн стварыў касцюмы і дэкарацыі да драмы «Саламея» О. Уайльда і трагедыі «Алена Спартанская» Э. Верхарна. Выканаў партрэт М. Казаці.

У Таварыстве выяўленчых мастацтваў у Лондане адбылася выстава «Творы Л. Бакста». Прыняў удзел у 19-й выставе «Свабодная эстэтыка» (Брусель) і выставе «Свет мастацтва» (Прага).

**1913**

Для антрэпрызы С. Дзягілева ажыццявіў мастацкае афармленне харэаграфічнай карціны «Гульні» на музыку К. Дэбюсі (сцэнарый і харэаграфія В. Ніжынскага). Для Ганны Паўлавай аформіў балет «Усходняя фантазія», для трупы Іды Рубінштэйн — пастаноўку містэрыі «Пізанэла» Г. Д'Анунцыя (харэаграфія М. Фокіна, пастаноўшчык У. Мейерхольд). Выканаў аўтапартрэт, партрэты графа Зубава, Іды Рубінштэйн.

Адбыліся персанальныя выставы мастака ў Таварыстве выяўленчых мастацтваў (Лондан), у галерэі Б.-П. Касірэра і галерэі «Фотаздымкі Компані» (Берлін), у Стакгольме. Прыняў удзел у выставах карцін таварыства «Свет мастацтва» ў Санкт-Пецярбургу, Маскве і Кіеве.

**1914**

У студзені апошні раз наведаў Пецярбург. У маі 1914 г. быў абраны сапраўдным членам Акадэміі мастацтваў, што дало яму права на свабоднае пражыванне ў расійскіх гарадах, але гэтым правам мастак ужо не скарыстаўся.

Аформіў пастаноўку мімадрамы-балета «Легенда пра Іосіфа» на музыку Р. Штрауса ў харэаграфіі М. Фокіна ў парыжскім тэатры Гранд-Опера. Выканаў партрэты Л. Мясіна, А. Гэрэт.

Адбыліся персанальныя выставы мастака ў Лондане, Нью-Ёрку, Бостане, Філадэльфіі, Чыкага. Удзельнічаў у 1-й Міжнароднай графічнай выставе ў Лейпцыгу, Сусветнай выставе ў Венецыі.

**1916**

Адбылася персанальная выстава ў Нью-Ёрку.

**1917**

Для антрэпрызы С. Дзягілева ў рымскім тэатры Канстанцы аформіў меладраму-балет «Жартаўніцы» на музыку Д. Скарлаці ў харэаграфіі Л. Мясіна.

Адбылася персанальная выстава калекцыі малюнкаў да балета «Спячая прыгажуня» ў Таварыстве выяўленчых мастацтваў у Лондане.

**1919**

У выніку перадачы А. Дэрэну заказу на афармленне балета «Чароўная лаўка» перапыніў супрацоўніцтва з С. Дзягілевым і некалькі гадоў працаваў для парыжскіх тэатраў.

**1920**

Выканаў партрэт Ганны Паўлавай.

Акварэлі, малюнкі, тэатральныя дэкарацыі Бакста былі выстаўлены ў нью-ёркскай галерэі Кнодлера. Работы мастака былі прадстаўлены на Першай Дзяржаўнай выставе мастацтва і навукі ў Казані.

**1921**

Выканаў партрэты Іды Рубінштэйн, Івана Буніна.

Стварыў эскізы касцюмаў і дэкарацыі да балета «Спячая прыгажуня» П. І. Чайкоўскага (харэаграфія М. Петыпа, аднаўленне М. Сяргеева) для антрэпрызы С. Дзягілева (Лондан, тэатр Альгамбра). Гэты спектакль стаў апошняй буйной пастаноўкай мастака.

Удзельнічаў у выставе старога і сучаснага рускага мастацтва ў парыжскай галерэі *La Boëtie*.

**1922**

У сувязі з перадачай заказу на афармленне оперы «Маўра» Л. Сюрважа распачаў супраць С. Дзягілева судовае разбіральніцтва і выйграў яго.

Па ўласных сцэнарыях аформіў наступныя пастаноўкі: мімадраму «Подласць», вадэвіль «Старая Масква» ў парыжскім тэатры *Fémina*, балет «Збянтэжаная Артэміда» ў парыжскай Гранд-Опера. Напісаў сем дэкаратыўных пано на сюжэт казкі «Спячая прыгажуня» для асабняка Д. Ротшыльда ў Лондане.

У нью-ёркскай галерэі Кнодлера на персанальнай выставе прадставіў свае новыя творы. Прыняў удзел у Міжнароднай тэатральнай выставе ў лонданскім музеі Вікторыі і Альберта.

**1923**

Напісаў аўтабіяграфічны раман «Жорсткае першае каханне» (выдадзены ў 2012 г. маскоўскім выдавецтвам «Мастацтва-XXI стагоддзе»).

Выступаў з лекцыямі па пытаннях сучаснага мастацтва і касцюма ў еўрапейскіх гарадах і ЗША. Апублікаваў артыкулы ў парыжскай газеце *Comoedia Illustré*. Паставіў балет «Чароўная ноч» на музыку Ф. Шапэна (Гранд-Опера). Праводзіў персанальную выставу ў Мастацкім клубе Чыкага, удзельнічаў у выставе рускага жывапісу ў Бруклінскім музеі (Нью-Ёрк), у выставе «Руская літаграфія за 25 гадоў».

**1922–1924**

Выканаў малюнкі ў рускім стылі для вытворчасці тэкстылю ў Амерыцы.

**1924**

Правёў персанальныя выставы партрэтаў у Лос-Анджэлесе і Балтыморы. Прыняў удзел у выставе рускага мастацтва ў Нью-Ёрку.

27 снежня памёр у бальніцы Руаль-Мальмезона ад наступстваў нервовага прыпадку, які здарыўся падчас працы над балетам «Істар» В. д'Эндзі для трупы Іды Рубінштэйн. Быў пахаваны на могілках Баціньёль у Парыжы.

Мемарыяльныя выставы адбыліся ў галерэі Ж. Шарпанцье ў Парыжы (1925 і 1928), Бруселі (1926), галерэі «Кентаўр» у Льежы (1926), у Таварыстве выяўленчых мастацтваў у Лондане, а таксама ў Берліне (1927).

**2015**

На 38-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА была прынята рэзалюцыя пра ўдзел гэтай міжнароднай арганізацыі ў святкаванні 150-годдзя са дня нараджэння Льва Бакста.

# Жизнь и творчество Льва Бакста (1866–1924)

## Основные события

**1866**

Родился 27 апреля/9 мая в г. Гродно в семье Израиля Самуила-Баруха Рабиновича (потомственного почетного гражданина) и Баси Розенберг. При рождении получил имя Лейб-Хаим. Фамилию — Розенберг (по фамилии деда, усыновившего отца будущего художника).

**1883**

Окончил 6-ю классическую гимназию Санкт-Петербурга и по совету скульптора Марка Антокольского поступил вольнослушателем в Императорскую Академию художеств, где учился у И. Л. Асказия, П. П. Чистякова, К. Б. Венига.

**1887**

Покинул академию под предлогом болезни глаз, на самом деле — в результате конфликта из-за представленной им на конкурс картины «Оплакивание Христа».

**1887–1890**

Работал в мастерской учебных пособий, организованной писателем и педагогом А. Н. Канаевым. Иллюстрировал детские книги для издательств А. А. Холмушина и А. Ф. Девриена.

**1889**

Начал подписывать свои работы как Бакст (сокращенно от Бакстер — фамилии бабушки по материнской линии).

**1890–1893**

Делал репортерские наброски для журналов «Художник» и «Петербургская жизнь», писал картины в манере передвижников («Пьяный факельщик», «Старуха-еврейка», «Кадриль на Святках»).

**1890**

Начал изучать технику акварели под руководством академика Альберта Н. Бенуа, познакомился с его младшим братом Александром Н. Бенуа и его окружением. Принял участие в 1-й выставке рисунков русских художников (Blanc et noir) в Санкт-Петербурге.

**1891**

Путешествовал по Германии, Италии, Испании и Франции, надолго останавливался в Париже. Участвовал в 11-й акварельной выставке Общества русских акварелистов в Санкт-Петербурге.

**1892**

Написал портрет А. Н. Бенуа, акварели «На склоне лет», «Воспоминание», «Парижанка». Выставлялся на 12-й акварельной выставке Общества русских акварелистов и выставке в Обществе поощрения художеств в Санкт-Петербурге.

**1893**

Вновь приехал в Париж, где проработал с перерывами до 1899 года. Занимался в студии Ж.-Л. Жерома, в академии Р. Жюлиана и у А. Эдельфельта. По заказу великого князя Алексея Александровича начал писать картину «Встреча адмирала Авелана в Париже». Подготовительные этюды к этой картине выставлял в салоне газеты Figaro. Принимал участие в 13-й акварельной выставке Общества русских акварелистов в Санкт-Петербурге.

**1894**

Принимал участие в 14-й акварельной выставке Общества русских акварелистов в Санкт-Петербурге.

**1895**

Исполнил портрет В. Ф. Нувеля, акварели «Молодой дагомеец», «Финский рыбак». Экспонировал свои работы на 15-й акварельной выставке Общества русских акварелистов в Санкт-Петербурге.

**1896**

Создал ряд портретов в технике акварели и пастели (А. К. Бенуа, М. Жоссе), этюды нормандского крестьянина, парижского поденщика. Принял участие во Всероссийской выставке в Нижнем Новгороде, Международной выставке в Берлине.

**1897**

Исполнил портреты Д. В. Философова, С. П. Дягилева, племянницы Маруси Клячко, К. А. Сомова.

Участвовал во 2-й акварельной выставке Общества русских акварелистов в Москве, выставке коллекции рисунков и акварелей княгини М. К. Тенишевой в залах Общества поощрения художеств в Санкт-Петербурге.

**1898**

Стал одним из основателей творческого объединения «Мир искусства». Принял участие в выставке русских и финляндских художников в Санкт-Петербурге.

**1899**

Выполнил портреты И. И. Левитана и Ф. А. Малявина. Принял участие в Международной художественной выставке Сецессион (Мюнхен) и выставке картин журнала «Мир искусства» в Санкт-Петербурге.

**1899–1907**

Стал главным иллюстратором журнала «Мир искусства», участвовал в оформлении «Ежегодника Императорских театров», журналов «Художественные сокровища России» (1901–1902), «Весы» (1904–1909), «Золотое руно» (1906), «Аполлон» (1909), рисовал для журнала «Сатирикон» (1908), оформлял открытки для Общины св. Евгении (1902–1905). Оформлял книги для петербургских и московских издательств, поэтические сборники «Снежная маска» А. А. Блока (Санкт-Петербург, 1907). Графический стиль, разработанный им совместно с А. Н. Бенуа и К. А. Сомовым, на два десятилетия стал доминирующим в оформлении книг и журналов. В живописи и станковой графике использовал опыт различных европейских школ и направлений — от салонного академизма до импрессионизма.

Імператарскай Акадэміі мастацтваў. Заснаваў у Адэсе ўласную мастацкую галерэю. У 1920 г. эмігрыраваў. Жыў у Парыжы, затым пераехаў у Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў (Каралеўства СХС). Даваў урокі жонцы караля Аляксандра. Пісаў заказныя партрэты. Удзельнічаў у выставах рускіх мастакоў у Нью-Ёрку, Бялградзе, у парыжскім Восеньскім салоне.

**КУЗНЯЦОЎ Павел Варфаламеевіч**
*(1878, Саратаў — 1968, Масква)*

Жывапісец. Нарадзіўся ў сям'і іканапісца. Вучыўся ў Студыі жывапісу і малявання, затым у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства ў А. Е. Архіпава, К. А. Каровіна і В. А. Сярова. У 1902 зблізіўся з В. Я. Брусавым і сімвалістамі. Супрацоўнічаў з выданнямі сімвалісцкага напрамку: часопісамі «Мастацтва», «Залатое руно». Удзельнічаў у выставах аб'яднання «Свет мастацтва» (1911, 1912, 1916). Прыняў актыўны ўдзел у фарміраванні мастацкага аб'яднання «Блакітная ружа». У 1906 годзе па запрашэнні Сяргея Дзягілева быў у Парыжы, дзе наведваў прыватныя мастацкія студыі. Працы мастака былі прадстаўлены на выставе рускага мастацтва. Быў абраны пажыццёва членам Восеньскага салона. Здзейсніў творчыя паездкі ў Заволжскія стэпы (1911–1912) і Сярэднюю Азію (1912–1913). У гады рэвалюцыі прымаў удзел у выданні часопіса «Шлях вызвалення». Вёў педагагічную працу, загадваў секцыяй жывапісу ў выяўленчым аддзеле Наркамасветы (1919–1924). Выкладаў ва ВХУТЕМАСе-Вхутеине, Маскоўскім інстытуце выяўленчых мастацтваў і іншых інстытутах. Актыўна працаваў у жанры пейзажу і нацюрморта. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1928).

**КУСТОДЗІЕЎ Барыс Міхайлавіч**
*(1878, Астрахань — 1927, Ленінград)*

Жывапісец, графік, тэатральны мастак. Нарадзіўся ў сям'і прафесара філасофіі і гісторыі літаратуры. Вучыўся ў Ільі Рэпіна ў Вышэйшай школе мастацтваў Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1896–1903) і працаваў у студыі Эміля Рэнэ Менара ў Парыжы (1904). Член Імператарскай Акадэміі мастацтваў у Францыі і Іспаніі (1904–08). Акадэмік жывапісу (1909). Браў удзел у выставах (з 1896 г.). Удзельнічаў у выставах Новага грамадства мастакоў (1904–08; член-заснавальнік), Таўрычаскай выставе старадаўніх партрэтаў у Санкт-Пецярбургу (1905), выставах Саюза рускіх мастакоў (1906–10; член з 1907 г.), «Салона» Сяргея Макоўскага (1909), «Свету мастацтва» (1910–24; член-заснавальнік), выставах Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыйнай Расіі (1923, 1925), міжнародных выставах у Мюнхене (1901, залаты медаль; 1909), Венецыі (1907, 1924), Бруселі (1910), Мальме (1914, залаты медаль), Піцбургу (1925) і Парыжы (1925), а таксама выставах рускага мастацтва ў Парыжы (1906), Берліне (1906, 1922) і Вене (1908). Працаваў для тэатраў Масквы і Санкт-Пецярбурга (з 1911). У 1905–1907 гг. працаваў у сатырычных часопісах «Жупел», «Пякельная пошта» і «Іскры». У 1913 г. выкладаў у Новай мастацкай майстэрні (Санкт-Пецярбург). З 1923 г. член Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыйнай Расіі.

**ЛАНСЕРЭ Яўген Яўгенавіч**
*(1875, Паўлаўск — 1946, Масква)*

Жывапісец, графік, манументаліст, кніжны, тэатральны і кінамастак. Сын вядомага скульптара Я. А. Лансерэ, брат мастачкі З. Я. Серабраковай і архітэктара М. Я. Лансерэ, пляменнік заснавальніка і ідэолага аб'яднання «Свет мастацтва» А. М. Бенуа. Вучыўся ў Яна Цыаглінскага ў мастацкай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў (1892–95), у Акадэміі Філіпа Каларосі (1895–96), Акадэміі Радольфа Жуліяна і студыях Жан-Поля Лорэнса і Жан-Жозэф-Веньяміна Канстанта ў Парыжы (1896–98). Удзельнічаў у выставе расійскіх і фінляндскіх мастакоў (1898), выставах аб'яднання «Свет мастацтва» (1898–1903; член-заснавальнік у 1910 г., старшыня ў 1915–16 гг.), таварыства «36 мастакоў» (1902) і выставах Саюза рускіх мастакоў (1903–10). У 1907–1908 гг. стаў адным са стваральнікаў Старыннага тэатра — кароткачасовай, але цікавай і прыкметнай з'явы ў культурным жыцці Расіі пачатку стагоддзя. Працягнуў працу з тэатрам у 1913–1914 гг. Супрацоўнічаў з часопісам «Свет мастацтва» (1898–1904). Акадэмік (1912), сапраўдны член Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1916). Народны мастак РСФСР (1945), Заслужаны дзеяч мастацтваў Грузінскай ССР (1933), лаўрэат Сталінскай прэміі другой ступені (1943).

**ЛЕВІТАН Ісак Ільіч**

*(1860, м. Кібарты Сувалкскай губерні, Літва — 1900, Масква)*

Мастак, педагог, пейзажыст. Нарадзіўся ў адукаванай збяднелай сям'і. Вучыўся ў Аляксея Саўрасава і Васіля Паленава ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1873–85). Акадэмік жывапісу (1898). Браў удзел у выставах (з 1880 г.). Удзельнічаў у выставах Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў (1884–1900; член з 1891 г.), у перыядычных выставах Маскоўскага таварыства аматараў мастацтваў (1897–1900), Таварыства паўднёварускіх мастакоў (1892), Маскоўскага таварыства мастакоў (1893), аб'яднання мастакоў Мюнхенскай сецэсіі (1896, 1898, 1899; член з 1897 г.), выставе расійскіх і фінляндскіх мастакоў (1898), Саюза мастакоў Расія — Францыя ў Маскве (1898), «Свет мастацтва» (1899, 1900), Усерасійскай прамыслова-мастацкай выставе ў Ніжнім Ноўгарадзе (1896), міжнародных выставах у Мюнхене (1896, 1898) і сусветных выставах у Чыкага (1893) і Парыжы (1900). У канцы 1889 — пачатку 1890 гг. Левітан упершыню здзейсніў паездку ў Заходнюю Еўропу, наведаў Францыю і Італію. Карціны Левітана «Сакавік», «Залатая восень», «Ненюфары» і іншыя былі набыты мецэнатам і калекцыянерам П. М. Траццяковым. Выкладаў у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1898–1900).

**МАКОЎСКІ Канстанцін Ягоравіч**

*(1839, Масква — 1915, Петраград)*

Мастак. Нарадзіўся ў сям'і расійскага дзеяча мастацтваў і мастака-аматара Ягора Іванавіча Макоўскага. Брат мастака Уладзіміра Макоўскага. У 1851 г. паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу і скульптуры, дзе вучыўся ў М. І. Скоці, А. М. Макрыцкага і С. К. Заранко. У 1858 г. паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў у Санкт-Пецярбургу. У 1863 г. Макоўскі разам з 13 іншымі студэнтамі, абранымі для ўдзелу ў конкурсе на вялікі залаты медаль, адмовіўся пісаць карціну на тэму Скандынаўскай міфалогіі і пакінуў акадэмію, не атрымаўшы дыплома. У 1870 г. стаў адным з заснавальнікаў Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў. У 1880-х гг. стаў модным аўтарам партрэтаў і гістарычных карцін, у прыватнасці, прысвечаных Усходу. На Сусветнай выставе 1889 г. у Парыжы атрымаў Вялікі залаты медаль за карціны «Смерць Івана Грознага», «Суд Парыса» і «Дэман і Тамара». Макоўскі быў адным з самых шануемых і высокааплатных расійскіх мастакоў таго часу. У 1915 г. К. Макоўскі ўдзельнічаў у заснаванні Таварыства адраджэння мастацкай Русі. Аказаў вялікі ўплыў на творчасць Л. Бакста.

**МАЛЯВІН Філіп Андрэевіч**

*(1869, с. Казанка Самарскай губерні — 1940, Ніца, Францыя)*

Жывапісец, графік. Працаваў на стыку мадэрну і імпрэсіянізму. Нарадзіўся ў шматдзетнай сям'і дзяржаўных сялян. Вучыўся ў Ільі Рэпіна ў Вышэйшай школе мастацтваў Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1892–99). Акадэмік жывапісу (1906). У 1907 г. здзейсніў творчую паездку ў Парыж. Браў удзел у выставах (з 1895 г.). Удзельнічаў у выставах Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў (1895), перыядычных выставах Маскоўскага таварыства аматараў мастацтваў (1895–96), вясновых выставах Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1899), аб'яднання «Свет мастацтва» (1899–1906, 1911, 1921, 1922), грамадства «36 мастакоў» (1901), Саюза рускіх мастакоў (1903–06, 1910–12, 1916, 1922, 1923) і Сусветнай выставе ў Парыжы (1900, галоўны залаты медаль). Выкладаў у Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях у Разані (1919–20). Эмігрыраваў у 1922 г. У 1924 г. у Парыжы прайшла другая персанальная выстава Малявіна. Апошняя персанальная выстава адбылася ў 1939 г. у майстэрні мастака ў Ніцы.

**МАШКОЎ Ілья Іванавіч**

*(1881, Міхайлоўская-на-Доне (цяпер Урупінскі раён Валгаградскай вобласці) — 1944, Масква)*

Мастак. У 1900–1905 і ў 1907–1910 гг. вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства ў мастакоў Валянціна Сярова, Канстанціна Каровіна, Апалінарыя Васняцова. Падчас

вучобы адрозніваўся эксцэнтрычным характарам, прыхільнасцю да гіпербалы. У 1909 г. здзейсніў падарожжа па краінах Заходняй Еўропы, Турцыі і Егіпце. У 1911 г. разам з П. П. Канчалоўскім стварае аб'яднанне «Бубновы валет». Уваходзіў таксама ў склад аб'яднання «Свет мастацтва» (з 1916 г.). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі выкладаў маляванне, чытаў курс лекцый у ваеннай школе. У 1918 г. быў абраны членам калегіі, закліканай арганізаваць аддзел выяўленчых мастацтваў пры Наркамасвеце. У 1924 г. працы мастака экспанаваліся ў Амерыцы. Член таварыства «Маскоўскія жывапісцы» (з 1925 г.). У перыяд 1924–1928 гг. — член Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыйнай Расіі, Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1928).

**НЕСЦЕРАЎ Міхаіл Васільевіч**
*(1862, Уфа — 1942, Масква)*

Жывапісец, манументаліст, кніжны графік. Нарадзіўся ў інтэлігентнай купецкай сям'і з рэлігійна-патрыярхальным укладам. Вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1877–81 і 1884–1886) у Васіля Пярова, Аляксея Саўрасава і Іларыёна Пранішнікава, у Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1881–84) у Паўла Чысцякова. Акадэмік (1898), сапраўдны член Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1910). Спачатку пісаў жанравыя карціны ў духу Перадзвіжніцтва. Член Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў (1896). Пасля звярнуўся да духоўна-рэлігійных і этычных праблем. Удзельнічаў у выставе расійскіх і фінляндскіх мастакоў (1898) і выставах «Свет мастацтва» (1899–1901). Член-заснавальнік Саюза рускіх мастакоў (1903). У жывапісе мастака пачалі выяўляцца рысы «мадэрну» і сімвалізму. Працаваў над роспісамі праваслаўных сабораў у Кіеве, Пецярбургу, Маскве. У савецкі час працаваў галоўным чынам як партрэтыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1942).

**ОРДА Напалеон**
*(1807, маёнтак Варацэвічы (цяпер Іванаўскі раён Брэсцкай вобласці) — 1883, Варшава)*

Мастак, кампазітар. Нарадзіўся ў сям'і шляхціца. Скончыў Свіслацкую гімназію (1823), 3 гады вучыўся ў Віленскім універсітэце, з якога быў выключаны за дачыненне да дзейнасці студэнцкага таварыства «Заране». За ўдзел у паўстанні 1830–31 гг. трапіў пад строгі нагляд паліцыі. Эмігрыраваў у Парыж. Удасканальваў майстэрства ігры на фартэпіяна ў Ф. Шапэна, атрымаў мастацкую адукацыю ў студыі Жэрара. У 1856 годзе пасля амністыі вярнуўся на радзіму. Пачаў маштабны праект — «Альбомы гістарычных відаў Польшчы». Было выканана каля 1500 малюнкаў з натуры (больш за 200 па Беларусі). На іх аснове ў 1873–1883 гг. графікам А. Місуровічам былі створаны і выдадзены ў Варшаве 260 графічных лістоў у 8 серыях. Арыгіналы работ захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве.

**ПЯТРОЎ-ВОДКІН Кузьма Сяргеевіч**
*(1878, Хвалынск Саратаўскай губерні — 1939, Ленінград)*

Жывапісец, графік, мастак, тэарэтык мастацтва, пісьменнік і педагог. Нарадзіўся ў сям'і шаўца. Вучыўся ў Цэнтральным вучылішчы тэхнічнага малявання барона Шцігліца ў Санкт-Пецярбургу (1895–97), у Абрама Архіпава і Валянціна Сярова ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1897–1905), школе Антона Ажбэ ў Мюнхене і ў прыватных акадэміях Парыжа (1906–08). Выкладаў у школе жывапісу і малявання Лізаветы Званцавай у Санкт-Пецярбургу (1910–15) і ў Акадэміі мастацтваў у Петраградзе/Ленінградзе (1918–39). Удзельнічаў у выставах «Свет мастацтва» (1911–24), «Чатыры мастацтвы» (1925–29) і шматлікіх персанальных выставах у Расіі і за мяжой. Сфармуляваў прынцып «трыхром», які разглядае тры асноўныя колеры ў якасці асноўных тонаў, а ўсе іншыя як вытворныя ад іх. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1930). Шмат працаваў як графік і тэатральны мастак, пачаў у 1913 г. у тэатры Нязлобіна. Аформіў спектаклі «Арлеанская дзева» Шылера (1913), «Дзённік Сатаны» па Андрэеву (1923, Ленінградскі тэатр драмы ім. Пушкіна), «Жаніцьба Фігаро» Бамаршэ (1935, Ленінградскі тэатр драмы ім. Пушкіна). Займаўся таксама літаратурнай працай, складаючы апавяданні, аповесці, п'есы і нарысы. Пісаў тэарэтычныя артыкулы, займаўся выкладаннем.

**РОМ Аляксандр Георгіевіч**
*(1886, Санкт-Пецярбург — 1952, Бахчысарай)*

Мастацтвазнаўца, перакладчык, мастак. Нарадзіўся ў сям'і знакамітага хірурга. З 1908 г. вучыўся жывапісу ў прыватнай мастацкай школе Л. Званцавай адначасова ў Л. С. Бакста і М. В. Дабужынскага. Там жа ў 1909 г. пазнаёміўся і пасябраваў з М. Шагалам. У 1913–1914 гг. жыў у Італіі. У 1915–1917 гг. быў на турэцкім фронце ў якасці перакладчыка. У 1918 г. Шагал запрасіў А. Рома ў Віцебск. Працаваў у пададдзеле выяўленчых мастацтваў губернскага аддзела народнай адукацыі, выкладаў гісторыю мастацтваў у Народным мастацкім вучылішчы, быў загадчыкам пададдзела выяўленчых мастацтваў, затым старшынёй Камісіі па ахове помнікаў даўніны і прадметаў мастацтва пры губернскім аддзеле асветы. У 1922–1924 гг. быў загадчыкам 7-га Пралетарскага музея імя А. Луначарскага, у 1924–1930 гг. — карэспандэнт-рэферэнт у ЦК прафсаюза работнікаў асветы. У гады вайны ў эвакуацыі загадваў карціннай галерэяй у г. Фрунзэ. Аўтар мастацтвазнаўчых кніг і артыкулаў. Пасля вайны жыў у Бахчысараі.

**РУШЧЫЦ Фердынанд Эдуардавіч**
*(1870, маёнтак Багданаў Ашмянскага павета Віленскай губерні (цяпер в. Багданава Валожынскага раёна Мінскай вобласці) — 1936, там жа)*

Жывапісец, графік, сцэнограф, педагог. Нарадзіўся ў сям'і адстаўнога капітана, уладальніка шляхецкага маёнтка. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, па патрабаванні бацькі — на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. У 1890 годзе паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў, вучыўся ў І. Шышкіна, затым — у А. Куінджы. Павел Траццякоў набыў адну з яго дыпломных работ — карціну «Вясна». Пасля завяршэння вучобы Рушчыц вярнуўся на радзіму. Напісаў шэраг карцін і эцюдаў. Палатно «Зямля» ўключылі ў экспазіцыю Сусветнай выставы ў Парыжы (1900). Пачаў актыўна ўдзельнічаць у выставах аб'яднання «Свет мастацтва» (1899, 1901, 1902). Заснаваў у Вільні польскамоўны мастацкі часопіс «Tygodnik Wilenski» — аналаг пецярбургскага «Свету мастацтва» ў Паўночна-Заходнім краі. Прафесар Варшаўскай школы прыгожых мастацтваў (1904–07), Кракаўскай акадэміі мастацтваў (1907–08), аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта (1919–32). У 1921 г. арганізаваў першую афіцыйную выставу польскіх мастакоў у Гран-Пале ў Парыжы, за што быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна.

**РЭПІН Ілья Яфімавіч**
*(1844, Чугуеў — 1930, Куокала, Фінляндыя)*

Мастак-жывапісец, майстар партрэта, гістарычных і бытавых сцэн. Сын салдата, у юнацтве працаваў іканапісцам. Займаўся ў мастацкай школе пад кіраўніцтвам І. М. Крамскога, працягнуў навучанне ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У 1876 г. за карціну «Садко» атрымаў званне акадэміка, у 1877 г. уступіў у Таварыства перадзвіжнікаў. Выкладаў у школе-майстэрні вядомай мецэнаткі Ценішавай. Прафесар — кіраўнік майстэрні (1894–1907), а затым рэктар (1898–99) Акадэміі мастацтваў. Сярод яго вучняў Ігар Грабар, Лізавета Званцава, Філіп Малявін, Дзмітрый Кардоўскі, Барыс Кустодзіеў, Ганна Астравумава-Лебедзева, Дзмітрый Шчарбіноўскі, Іван Білібін, Мікалай Фешын. І. Рэпін быў непасрэдным настаўнікам мастака В. А. Сярова. Ужо з самага пачатку свайго творчага шляху, з 1870-х гг., Рэпін стаў адной з ключавых фігур рускага рэалізму. Росквіт творчасці Рэпіна прыйшоўся на 1880-я гады. Ён стварыў галерэю партрэтаў сучаснікаў, працаваў як гістарычны мастак і майстар бытавых сцэн. Апошнія 30 гадоў жыцця правёў у Фінляндыі, у сваім маёнтку Пенаты ў Куокале. У апошнія гады звярнуўся да біблейскіх сюжэтаў. У Куокале мастак напісаў мемуары, шэраг яго нарысаў увайшоў у кнігу ўспамінаў «Далёкае блізкае».

**РЭРЫХ Мікалай Канстанцінавіч**
*(1874, Санкт-Пецярбург — 1947, Кулу, Індыя)*

Жывапісец, графік, тэатральны мастак, філосаф, вучоны, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Бацькам будучага мастака быў вядомы натарыус — Канстанцін Фёдаравіч Рэрых. Вучыўся ў Архіпа Куінджы ў Вышэйшай школе мастацтваў Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1893–97), на юрыдычным факультэце Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта (1893–98) і ў студыі Фернана Кармона і Пювi дэ Шавана ў Парыжы

(1900–01). Акадэмік жывапісу (1909). Браў удзел у выставах (з 1895 г.). Удзельнічаў у выставах «Свет мастацтва» (1902, 1903, 1911–17; член-заснавальнік, 1910; старшыня, 1910–13), выставах Саюза рускіх мастакоў (1903–10, член з 1903 г.), Восеньскім салоне (1906, 1907, член з 1906 г.), Сусветнай выставе ў Парыжы (1900), Сусветнай выставе ў Сэнт-Луісе (1904), міжнародных выставах у Мюнхене (1909), Рыме (1911, 1914) і Мальме (1914) і выставах рускага мастацтва ў Парыжы (1906–08), Берліне (1906) і Вене (1908). Дырэктар мастацкай школы Таварыства заахвочвання мастацтваў (1906–16). Маляваў для тэатраў у Маскве і Санкт-Пецярбургу, а таксама «Рускіх балетаў» Сяргея Дзягілева (з 1907 г.). У 1913 г. у Парыжы адбылася знакавая прэм’ера балета І. Ф. Стравінскага «Вясна свяшчэнная», дзе мастак выступіў не толькі як дэкаратар, але і як аўтар ідэі. З пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя вёў актыўную мастацка-асветніцкую дзейнасць з ЗША. Эмігрыраваў (1918). Пасяліўся ў Кулу ў Індыі (1928). Падчас Другой сусветнай вайны ладзіў выставы-продажы карцін. Атрыманыя сродкі накіроўваў на карысць Чырвонай арміі.

**САПУНОЎ Мікалай Мікалаевіч**
*(1880, Масква — 1912, Тэрывокі (недалёка ад Санкт-Пецярбурга))*

Жывапісец, тэатральны мастак. Нарадзіўся ў сям’і ўладальніка завода па вырабе свечак. Вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1896–1901) і Вышэйшай школе мастацтваў Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1904–10). Удзельнічаў у выставах «Свет мастацтва» (1902, 1906, 1911–13), «Блакітная ружа» (1907) і выставе Саюза рускіх мастакоў (1907). Выконваў дэкарацыі па эскізах Аляксандра Галавіна да балета Ігара Стравінскага «Жар-птушка» для першага сезона «Рускага балета» Сяргея Дзягілева (1910). Планаваў супрацоўніцтва з Дзягілевым у Парыжы (1912). Плённа супрацоўнічаў з тэатрамі Масквы і Пецярбурга (В. Ф. Камісаржэўскай, К. М. Нязлобіна, Студыяй на Паварской, Домам інтэрмедый).

**СЕМІРАДСКІ Генрых Іпалітавіч**
*(1843, Нова-Белгарад (пазней в. Печанегі) Харкаўскай губерні —
1902, Стшалкава Петракоўскай губерні, Польшча)*

Мастак, адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў позняга акадэмізму. Род Семірадскага згадваецца ў архіўных дакументах з XVII стагоддзя. Продкі Г. Семірадскага асталяваліся ў беларускім горадзе Наваградку. Вучыўся ў Харкаве і Пецярбургу, але большую частку актыўнага творчага жыцця правёў у Рыме. Найбольш вядомы манументальнымі палотнамі на сюжэты з гісторыі антычных Грэцыі і Рыма; таксама паспяхова працаваў у жанры камернай ідыліі, пейзажа і партрэта. Займаўся афармленнем тэатраў і прыватных інтэр’ераў. Акадэмік і прафесар Імператарскай Акадэміі мастацтваў, акадэмій жывапісу Берліна, Стакгольма, Рыма, Турына, член-карэспандэнт французскай Акадэміі прыгожых мастацтваў. Творы знаходзяцца ў музеях Польшчы, Украіны, Беларусі, Латвіі, а таксама ў прыватных зборах іншых еўрапейскіх краін. Г. Семірадскі аказаў вялікі ўплыў на творчасць Л. Бакста.

**СЕРАБРАКОВА Зінаіда Яўгенаўна**
*(1884, с. Няскучнае Курскай губерні — 1967, Парыж)*

Жывапісец, графік. Належала да мастацкай дынастыі Бенуа — Лансерэ: дачка скульптара Я. А. Лансерэ, пляменніца мастака і мастацтвазнаўцы А. М. Бенуа. Вучылася ў школе М. К. Ценішавай у І. Я. Рэпіна, а ў 1903–1905 гг. займалася ў прыватнай майстэрні В. Э. Браза. Два гады жыла ў Парыжы, дзе наведвала акадэмію «Гранд Шам’ер». У 1910 г. прымала ўдзел у выставе «Сучасны жаночы партрэт», арганізаванай часопісам «Апалон». Работы мастачкі экспанаваліся на выставах Саюза рускіх мастакоў і аб’яднання «Свет мастацтва». У 1915 г. атрымала заказ на манументальныя пано для Казанскага вакзала ў Маскве. У 1924 г. эмігрыравала ў Францыю і пасялілася ў Парыжы. Напісала партрэты С. С. Пракоф’ева, К. А. Сомава і інш., займалася афармленнем інтэр’ераў. Арганізавала шэраг персанальных выстаў, прымала ўдзел у выставах рускіх мастакоў-эмігрантаў у 1920–1930 гг. У 1961 г. была адным з экспанентаў выставы «Сямейства Бенуа» ў Лондане.

**СОМАЎ Канстанцін Андрэевіч**
*(1869, Санкт-Пецярбург — 1939, Парыж)*

Жывапісец, графік, мастак, майстар партрэта і пейзажа, ілюстратар, адзін з заснавальнікаў таварыства «Свет мастацтва» і аднайменнага часопіса. Сын вучонага-мастацтвазнаўцы А. І. Сомава. Вучыўся ў студыі Ільы Рэпіна (з 1894 г.) у Імператарскай Акадэміі мастацтваў (1888–97) і ў Акадэміі Філіпа Каларосі ў Парыжы (1898). Акадэмік (1914). У 1918 г. стаў прафесарам Петраградскіх дзяржаўных свабодных мастацкіх навучальных майстэрняў; працаваў у школе Л. М. Званцавай. У 1919 г. у Траццякоўскай галерэі адбылася юбілейная персанальная выстава мастака. Удзельнік Мюнхенскай і Берлінскай сецэсіі (1898), выставы «Свет мастацтва» (1899), выставы Саюза рускіх мастакоў (1903) і Восеньскага салона (1906). Удзельнічаў у выставах Таварыства рускіх акварэлістаў (1894–95), выставе расійскіх і фінляндскіх мастакоў (1898), сецэсіі ў Мюнхене, Берліне і Вене, міжнародных выставах у Венецыі і Рыме, выставах рускага мастацтва ў Парыжы, Нью-Ёрку і Бруселі і шматлікіх персанальных выставах. Маляваў для часопісаў «Залатое руно» і «Мастацкія скарбы Расіі». Нароўні з пейзажным і партрэтным жывапісам і графікай працаваў у галіне дробнай пластыкі, стварыў вытанчаныя фарфоравыя кампазіцыі «Граф Нулін» (1899), «Закаханыя» (1905) і інш. Жыў у Парыжы (з 1925 г.).

**СОРЫН Савелій Абрамавіч**
*(1878, Полацк Віцебскай губерні — 1953, Нью-Ёрк)*

Жывапісец, графік. Нарадзіўся ў сям'і небагатага габрэйскага краўца і маці з секты малакан. Скончыўшы Адэскую малявальную школу з залатым медалём, атрымаў права паступаць у Імператарскую школу без экзаменаў і вучыўся ў ёй з 1899 года, спачатку ў І. Творожнікава і В. Савінскага, а затым ў І. Рэпіна. У 1907 годзе за карціну «Натхнёная хвіліна», якая паказвае актрысу Элеанору Дузе ў момант рэпетыцыі, атрымаў званне мастака і пенсіянерства (фінансаванне паездкі за мяжу), дзякуючы якому наведаў Францыю і Італію. У 1900–1910-я ствараў жывапісныя і графічныя партрэты дзеячаў літаратурна-мастацкага свету і прадстаўнікоў шляхты: М. Горкага (адзін з першых партрэтаў пісьменніка), Ф. І. Шаляпіна, Т. П. Карсавінай у ролі Сільфіды, кн. С. М. Валконскага, кнг. В. К. Арловай, баранэсы Ю. Т. Штейгель. Удзельнічаў у выставах аб'яднання «Свет мастацтва» (1913, 1915, 1917). З 1920 г. у Парыжы. У эміграцыі працягнуў серыю партрэтаў. Найбольш вядомая праца мастака «Партрэт Ганны Паўлавай» была набыта Люксембургскім музеем Парыжа. Прымаў актыўны ўдзел у выставах рускіх мастакоў за мяжой, у прыватнасці, у выставе групы рускіх мастакоў «Свет мастацтва» ў 1927 годзе ў Парыжы. Падчас Другой сусветнай вайны пасяліўся ў ЗША, дзе пражыў да канца жыцця.

**СТАБРОЎСКІ Казімір Антонавіч**
*(1869, маёнтак Крупляны Гродзенскай губерні (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці) — 1929, Варшава)*

Жывапісец, педагог, крытык. Нарадзіўся ў сям'і шляхціца. Вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, затым у майстэрні Іллі Рэпіна, Акадэміі Жульена (Парыж). Пасля 1894-га жыў і працаваў на Гродзеншчыне. Удзельнічаў у мастацкіх выставах у Пецярбургу, Парыжы, Мюнхене, Венецыі. З 1902 член Таварыства польскіх мастакоў «Штука» («Мастацтва»). Першы дырэктар адноўленай у 1904 г. Варшаўскай школы прыгожых мастацтваў. Адным з вучняў быў М. К. Чурлёніс. Заснаваў аб'яднанне мастакоў «Sursum Corda» (1922). Ствараў кампазіцыі фантастычна-сімвалічнага характару, пейзажы ў стылі мадэрн, партрэты. Большасць твораў загінула падчас рэвалюцыі ў Расіі і паўстання 1944 г. у Варшаве.

**СТЭЛЕЦКІ Дзмітрый Сямёнавіч**
*(1875, Брэст-Літоўск — 1947, Парыж)*

Скульптар, жывапісец, графік, тэатральны мастак. Нарадзіўся ў сям'і ваеннага інжынера. З 1896 г. вучыўся на архітэктурным аддзяленні, з 1897-га — на скульптурным аддзяленні Імператарскай Акадэміі мастацтваў у Гуга Залемана і Уладзіміра Беклямішава. У 1903 г. атрымаў званне скульптара-мастака. Наведваў акадэмію Р. Жульена ў Парыжы (1904). Пісаў алеем і тэмперай карціны, стылізаваныя ў духу

іканапісу і старажытнарускай мініяцюры. Ствараў скульптуры з размаляванага гіпсу і дрэва. Удзельнічаў у выставах «Свет мастацтва» (1906, 1911–13, член з 1912 г.), выставах рускага мастацтва за мяжой, у Восеньскім салоне ў Парыжы. Выконваў эскізы для тэатраў Санкт-Пецярбурга (з 1908 г.), удзельнічаў у афармленні оперы «Пскавіцянка» для «Рускіх сезонаў» С. Дзягілева (1909). У пачатку Першай сусветнай вайны апынуўся ў Парыжы. У Расію не вярнуўся. Працягваў пісаць стылізаваныя карціны на рускія сюжэты, працаваў над роспісамі праваслаўных храмаў, эпізадычна звяртаўся да сцэнаграфіі. Удзельнічаў у выставах рускіх мастакоў, у тым ліку групы «Свет мастацтва». Апошнія гады правёў у доме для старых у Сэнт-Жэнеўеў-дэ-Буа, дзе быў пахаваны на мясцовых могілках.

**СУДЗЕЙКІН Сяргей Юр'евіч**
*(1882, Санкт-Пецярбург — 1946, Наяк, ЗША)*

Жывапісец, графік, тэатральны мастак. Нарадзіўся ў сям'і падпалкоўніка Асобнага корпуса жандармаў. У юнацкім узросце паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. У 1902 г. разам з М. Ларыёнавым быў выключаны з вучылішча, але пасля аднавіўся. У 1909 г. паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў, дзе вучыўся ў майстэрні Д. М. Кардоўскага.

У 1907 г. стаў адным з арганізатараў аб'яднання «Блакітная ружа», сталым удзельнікам выстаў і членам таварыства «Свет мастацтва». Супрацоўнічаў з часопісамі «Шалі», «Апалон», «Сатырыкон», «Новы сатырыкон». Як тэатральны мастак пачаў працу ў антрэпрызе С. І. Мамантава. У 1905 г. прыняў удзел у першых эксперыментальных рэжысёрскіх спробах У. Мейерхольда. Шмат працаваў у тэатрах Пецярбурга і Масквы. У 1911 г. стаў адным з арганізатараў і мастакоў артыстычнага кабарэ «Бадзяжны сабака».

Пасля рэвалюцыі эмігрыраваў з Савецкай Расіі. У 1920 г. пасяліўся ў Францыі. Супрацоўнічаў з тэатрам-кабарэ «Лятучая мыш» М. Баліева, афармляў балеты для трупы Ганны Паўлавай. У 1922 г. пераехаў у ЗША. У наступныя 20 гадоў паспяхова працаваў як тэатральны мастак. У 1934–1935 гг. паспрабаваў сябе ў кіно, стварыўшы для Галівуда дэкарацыі да фільма «Нядзеля».

**СЯРОЎ Валянцін Аляксандравіч**
*(1865, Санкт-Пецярбург — 1911, Масква)*

Жывапісец, малявальшчык, тэатральны мастак.

Сусветна вядомы мастак нарадзіўся ў сям'і знакамітага кампазітара А. М. Сярова. Першыя навыкі малявання атрымаў у мюнхенскага мастака К. Кепінга. Затым браў прыватныя ўрокі ў І. Я. Рэпіна. У 1880 г. паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў, дзе вучыўся ў П. П. Чысцякова. У 1885 г. атрымаў малы сярэбраны медаль за эцюд з натуры і ў гэтым жа годзе пакінуў акадэмію. Праз два гады напісаў знакамітую «Дзяўчынку з персікамі», а ў 1888 г. — «Дзяўчыну, асветленую сонцам», карціны, якія адкрылі імпрэсіяністкі перыяд у рускім жывапісе.

У 1903 г. быў абраны сапраўдным членам Акадэміі мастацтваў. Праз два гады выйшаў з яе складу — у знак пратэсту супраць расстрэлу дэманстрантаў 9 студзеня 1905 г.

З пачатку 90-х гадоў XIX стагоддзя асноўным жанрам творчасці мастака стаў партрэт. Упадабанымі мадэлямі мастака былі артысты, мастакі, пісьменнікі, блізкія яму людзі: К. А. Каровін, І. І. Левітан, М. А. Рымскі-Корсакаў, Ф. І. Шаляпін, М. М. Ярмолава, Іда Рубінштэйн і многія іншыя. Часта звяртаўся і да сюжэтаў на гістарычныя тэмы: «Выезд Пятра II і цэсарэўны Лізаветы Пятроўны на паляванне», «Пётр І». У 1897–1907 гг. выкладаў у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Уваходзіў у Таварыства перасоўных выстаў, але, парваўшы з перадзвіжнікамі, стаў пастаянным экспанентам і членам аб'яднання «Свет мастацтва».

Працаваў у галіне тэатра. Па заказе С. Дзягілева ў 1909 г. зрабіў малюнак афішы балетных спектакляў «Рускіх сезонаў» у Парыжы, якія адлюстроўвалі Ганну Паўлаву ў ролі Сільфіды, а ў 1911 г. аформіў заслону да балета «Шахеразада» М. А. Рымскага-Корсакава.

**УРУБЕЛЬ Міхаіл Аляксандравіч**
*(1856, Омск — 1910, Санкт-Пецярбург)*

Жывапісец, графік, скульптар, тэатральны мастак. Нарадзіўся ў сям'і прафесійнага вайскоўца. Вучыўся ў мастацкай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, які скончыў з залатым медалём. У 1880 г. быў залічаны вольным слухачом у Імператарскую Акадэмію мастацтваў, дзе займаўся ў класе П. Чысцякова. Пасля заканчэння акадэміі пераехаў у Кіеў. Распісваў Кірылаўскую царкву і прымаў удзел у работах па стварэнні ўнутранага ўбрання Уладзімірскага сабора. У 1890 г. пераехаў у Маскву. У 1894 г. атрымаў заказ на афармленне асабняка С. Т. Марозава. Стварыў эскізы касцюмаў і дэкарацый да спектакляў Рускай прыватнай оперы С. І. Мамантава. Уваходзіў у асяроддзе мастакоў аб'яднання «Свет мастацтва».

**ЧЫСЦЯКОЎ Павел Пятровіч**
*(1832, с. Пруды Цвярской губерні (цяпер Краснахолмскі раён Цвярской вобласці) — 1919, г. Пушкін)*

Мастак і педагог, майстар гістарычнага, жанравага і партрэтнага жывапісу. Нарадзіўся ў сям'і прыгоннага селяніна. У 1849 г. паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў, дзе яго настаўнікам стаў прафесар П. В. Басін. У перыяд 1854–1858 гг. атрымаў два малыя і два вялікія сярэбраныя медалі акадэміі за малюнкі і эцюды з натуры. У 1861 г. скончыў курс акадэміі з вялікім залатым медалём. Некаторы час быў выкладчыкам у Пецярбургскай мастацкай школе. З 1862 г. за мяжой; наведаў Германію, працаваў у Парыжы і Рыме. Па вяртанні ў Пецярбург у 1870 г. атрымаў званне акадэміка. Прысвяціў сябе галоўным чынам выкладчыцкай дзейнасці. Выкладаў у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Яго вучнямі былі Л. Бакст, В. Васняцоў, М. Урубель, В. Паленаў, Ю. Пэн, І. Рэпін, В. Сяроў, В. Сурыкаў.

**ЧУРЛЁНІС Мікалоюс Канстанцінас**
*(1875, м. Варэна Віленскай губерні — 1911, Пустэльнік Варшаўскай губерні)*

Літоўскі мастак і кампазітар. Нарадзіўся ў сям'і арганіста. Вучыўся ў музычнай школе князя Міхаіла Агінскага ў Плунге да 1892 г. У 1892–93 гг. іграў у аркестры князя. Пры яго падтрымцы вучыўся ў Варшаўскім музычным інстытуце (1894–99). Напісаў сімфанічную паэму «У лесе», якая стала першым літоўскім сімфанічным творам. Вучыўся ў Лейпцыгскай кансерваторыі (1904–06). Навучаўся жывапісу ў мастацкай школе Я. Каузіка (1902–03) і мастацкім вучылішчы (1904–06) у К. Стаброўскага і Ф. Рушчыца ў Варшаве. Упершыню экспанаваў свае работы ў Варшаве ў 1905 г. У 1906 г. работы М. К. Чурлёніса экспанаваліся на выставе вучняў Варшаўскага мастацкага вучылішча ў Санкт-Пецярбургу. Адзін з ініцыятараў і ўдзельнікаў першай выставы літоўскага выяўленчага мастацтва ў 1907 г. у Вільні (Вільнюсе). У 1908 г. у Пецярбургу М. К. Чурлёніс прыняў удзел у выставе «Салон». Увайшоў у кола мастакоў, якія стварылі аб'яднанне «Свет мастацтва». У студзені і лютым наступнага года на выставе гэтага аб'яднання былі прадстаўлены 125 карцін Чурлёніса. Творчая спадчына складае каля 300 твораў жывапісу і графікі ў духу мадэрну і ар-нуво, якія спалучаюць уплыў сімвалізму з элементамі народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ды імкненне да сінтэзу мастацтваў і пошукаў аналогій музыкі і выяўленчага мастацтва. Многія творы страчаны, большасць з тых, што захаваліся, знаходзяцца ў Каўнасе, у Нацыянальным мастацкім музеі ім. М. К. Чурлёніса.

**ШАГАЛ Марк**
*(1887, Віцебск — 1985, Сен-Поль-дэ-Ванс, Францыя)*

Мастак-жывапісец, графік, сцэнограф, паэт. Адзін з самых вядомых прадстаўнікоў мастацкага авангарду XX стагоддзя. Нарадзіўся ў сям'і прыказчыка. У 1906 г. вучыўся выяўленчаму мастацтву ў мастацкай школе Юдэля Пэна ў Віцебску. У Пецярбургу займаўся ў мастацкай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў, якую ўзначальваў М. К. Рэрых. У 1909–1910 гг. працягнуў заняткі ў Л. С. Бакста ў прыватнай мастацкай школе Л. М. Званцавай. У 1911 г. з'ехаў у Парыж, дзе ўвайшоў у кола мастакоў і паэтаў-авангардыстаў.

Улетку 1914 г. мастак вярнуўся ў Віцебск. У верасні 1915 г. выехаў у Петраград і паступіў на службу ў Ваенна-прамысловы камітэт. Пасля рэвалюцыі быў прызначаны Народным камісарыятам асветы ўпаўнаважаным па справах мастацтваў у Віцебскай губерні. Стварыў у Віцебску Народнае мастацкае вучылішча. У 1920 г. прымаў удзел у афармленні будынка і пастаноў у Маскоўскім яўрэйскім камерным тэатры. У 1922 г. разам з сям'ёй з'ехаў у Літву, дзе ў Каўнасе прайшла яго выстава, затым у Германію. Увосень 1923 г. па запрашэнні Амбруаза Валара сям'я Шагала з'ехала ў Парыж. У 1937 г. атрымаў французскае грамадзянства. У 1941 г. пераязджае з сям'ёй у Нью-Ёрк. У 1947 г. вярнуўся ў Францыю. З 1960-х мастак у асноўным займаўся манументальнымі відамі мастацтва — мазаікай, вітражамі, шпалерамі, а таксама захапляўся скульптурай і керамікай. Да канца жыцця ў яго творчасці прасочваліся «віцебскія» матывы.

# БИОГРАФИИ ХУДОЖНИКОВ

**АНИСФЕЛЬД Борис (Бер) Израилевич**
*(1879, Бельцы, Бессарабия — 1993, Уотерфорд, Коннектикут, США)*

Художник и сценограф. Родился в семье управляющего имением. Учился в Одесском художественном училище (1895–1900) и под руководством Дмитрия Кардовского и Ильи Репина в Высшем художественном училище при Императорской Академии художеств (1901–09). Участник художественных выставок с 1903 г. Принимал участие в выставках Осеннего салона, Союза русских художников (1906–10), объединения «Мир искусства» (1906, 1911–17) и Еврейского общества поощрения художеств (1915–19). Дебютировал как сценограф в 1907 г., оформив спектакль «Свадьба Зобеиды» по Г. фон Гофмансталю (театр В. Ф. Комиссаржевской, режиссер В. Э. Мейерхольд). С 1909–1911 гг. работал для антрепризы С. П. Дягилева, исполняя декорации по эскизам Л. С. Бакста и других мастеров. Самостоятельно работал как художник-постановщик со многими театральными компаниями. Эмигрировал в США (1917). Плодотворно сотрудничал с театром «Метрополитен-опера», а с 1921 г. — с Чикагской оперой. В 1928 г. переехал в Чикаго, где преподавал в Художественном институте (1928–58) и активно работал как станковист.

**АНТОКОЛЬСКИЙ Марк Матвеевич**
*(1843, Вильно — 1902, Бад-Хомбург-фор-дер-Хеэ, Германия)*

Скульптор, академик, профессор скульптуры. Благодаря ходатайству жены виленского генерал-губернатора А. А. Назимовой был принят в Академию художеств, где ему было разрешено посещать вольнослушателем скульптурный класс. В 1864 г. был награжден серебряной медалью за горельеф «Еврей-портной», в 1868 г. — золотой медалью за горельеф «Скупой». Совет Академии художеств присудил студенту Марку Антокольскому высшую награду — звание академика за статую «Иван Грозный». В 1871 г. после окончания академии Антокольский уехал в Рим и Париж. Был избран членом-корреспондентом Парижской академии. В 1878 г. показал свои новые работы на Всемирной выставке в Париже и получил ее высшую награду и французский орден Почетного легиона. Был избран почетным членом многих западноевропейских академий: Венской, Берлинской, Лондонской и др. Писал статьи по вопросам искусства, «Автобиографию» и роман «Бен-Изак» — хроники еврейской жизни. По совету Антокольского родители Льва Бакста продолжили обучение сына изобразительному искусству.

**АСКНАЗИЙ Исаак Львович**
*(Дрисса Витебской губернии (ныне Верхнедвинск) — 1902, Москва)*

Исторический живописец-библеист, педагог. Родился в семье зажиточного купца-хасида. С четырнадцати лет обучался мастерству в Императорской Академии художеств в Санкт-Петербурге. В основном писал на темы библейских сюжетов, заимствованных из Ветхого и Нового Заветов. За свои картины был награжден золотыми медалями. Во время пребывания в столице Австрии, Вене, начал писать под руководством Ганса Макарта картину «Палач с усеченною головою Иоанна Крестителя», законченную им в Риме. Преподавал в Императорской Академии художеств, был первым наставником Льва Бакста в академии.

**БЕНУА Александр Николаевич**
*(1870, Санкт-Петербург — 1960, Париж)*

График, живописец, театральный художник, историк искусства, основатель и главный идеолог объединения «Мир искусства». Родился в семье российского архитектора Николая Бенуа. Занимался живописью под руководством своего брата Альберта Бенуа (1880-е гг.), учился в Императорской Академии художеств (1887–88) и на факультете права Санкт-Петербургского университета (1890–94). Участник выставок «Мира искусства» (1899, член-учредитель), Союза русских художников (1903) и Осеннего салона (1906). Участвовал в выставках Общества русских акварелистов (1891–96), «Салона» Сергея Маковского (1909), международных выставках в Мюнхене (1898), Риме (1911) и Мальме (1914), а также выставках русского искусства в Париже (1906, 1910) и Берлине (1906). Как сценограф работал с Мариинским театром, театром Веры Комиссаржевской и Старинным театром в Санкт-Петербурге, Московским Художественным театром, балетной компанией Иды Рубинштейн, Королевским театром в Мадриде, театром Елисейских Полей и Оперным театром в Париже. Сыграл значительную роль в постановках балетной антрепризы Сергея Дягилева (1909–27) как художник и автор-постановщик спектаклей. Хранитель картинной галереи Эрмитажа (1918–26). В 1926 г. покинул СССР. Жил в Париже, работал в основном над эскизами театральных декораций и костюмов.

**БЕНУА Альберт Николаевич**
*(1852, Санкт-Петербург — 1936, Париж)*

Художник, архитектор, академик, педагог. Родился в семье архитектора Николая Леонтьевича Бенуа. Брат Александра Николаевича Бенуа. Окончил 5-ю Санкт-Петербургскую гимназию. В 1871–1877 гг. учился в Императорской Академии художеств на архитектурном отделении. Одновременно занимался акварелью под руководством Л. О. Премацци. В 1876 г. был удостоен большой поощрительной медали и малой золотой медали за программу «Проект университета». В 1877 г. выпущен из Академии со званием классного художника-архитектора 1-й степени. После окончания Императорской Академии художеств занялся акварельной живописью. В 1883–1885 гг. путешествовал по Италии, Франции, Испании для совершенствования в технике акварели. В 1884 г. был удостоен звания академика. Назначен преподавателем акварели в Императорской Академии художеств; в 1894–1905 гг. — член совета, с 1894-го — действительный член ИАХ. В 1880 г. стал одним из основателей Кружка русских акварелистов (с 1887 г. — Общество русских акварелистов), в 1887–1897 гг. — член Правления Общества, в 1897–1918 гг. — почетный член Общества. Ввел Л. Бакста в круг основателей объединения «Мир искусства». С 1895 г. — хранитель Русского музея императора Александра III. С 1897 г. — инспектор по художественной части Департамента торговли и мануфактуры. С 1903 г. был соредактором журнала «Мир искусства». В 1918 г. был назначен заведующим Музеем прикладного искусства Комиссариата торговли и промышленности, участвовал в создании Музея природы северного побережья Невской губы. В 1924 г. эмигрировал в Париж.

**БОБРОВСКИЙ Григорий Михайлович**
*(1873, Витебск — 1942, Ленинград)*

Живописец и педагог. В 1887–1893 гг. был семинаристом Витебской духовной семинарии. В 1893 г. поступил в Высшее художественное училище при Императорской Академии художеств, где был учеником Ильи Репина. Окончил училище в 1900 г. с присвоением звания художника. В 1902–1904 гг. преподавал в Харьковской школе рисования и живописи. После возвращения в 1904 г. в Петербург преподавал в Рисовальной школе Общества поощрения художеств. Участвовал в выставках с 1899 г. В 1901 г. был одним из членов-учредителей Артели художников Санкт-Петербурга. Экспонент Московского товарищества художников (1901–03), Нового общества художников (1909), «Мира искусства» (1910–11), Союза русских художников (1912–17), группы «Шестнадцать». Участвовал в выставках русского искусства в Мюнхене, где был отмечен малой и большой золотыми медалями (1911, 1913), и Нью-Йорке (1924). В 1916 г. Бобровскому было присвоено звание академика. В 1923 г. примкнул к Ассоциации художников революционной России, участвовал в выставках 1923, 1926, 1928 гг. Одновременно в 1921–1929 гг. преподавал в Петроградских государственных свободных художественно-

учебных мастерских, которые были преобразованы в Высшие художественно-технических мастерские, а затем в Высший художественно-технический институт. С 1932 г. член Ленинградского союза художников. Участвовал в крупнейших ленинградских и всесоюзных выставках 1930-х гг. Умер в январе/феврале 1942 г. от дистрофии в своей мастерской.

**БОГАЕВСКИЙ Константин Федорович**
*(1872, Феодосия — 1943, Феодосия)*

Живописец, график, художник. Родился в семье мелкого служащего. Почти всю жизнь прожил в Феодосии. Учился у А. Фесслера в мастерской Ивана Константиновича Айвазовского в Феодосии (1880) и А. И. Куинджи в Императорской Академии художеств (1891–97). Принимал участие в выставках (с 1898). Участвовал в весенних выставках в залах Императорской Академии художеств (1898–1905) и выставках творческого объединения «Новое общество художников» (1905–10; основатель, член), Товарищества южнорусских художников (1906–10), Московского товарищества художников (1908–12), Союза русских художников (1908, 1911), объединения «Мир искусства» (1911–15), общества художников «Жар-цвет» (1924–28), международных выставках в Мюнхене (1903–05, 1907), Венеции (1903, 1905, 1911, 1913, 1924), Брюсселе (1910), Риме (1911) и Мальме (1914) и выставках русского искусства в Париже (1906, 1910) и Берлине (1906). В 1941 г. оказался в оккупации, погиб в 1943 г. при бомбардировке Феодосии.

**ВОЛОШИН Максимилиан Александрович**
*(1877, Киев — 1932, Коктебель, Крым)*

Поэт, переводчик, художник-пейзажист, художественный и литературный критик. Раннее детство прошло в Таганроге и Севастополе. С 1897 по 1899 г. учился в Московском университете, был отчислен «за участие в беспорядках» с правом восстановления, но продолжать обучение не стал и занялся самообразованием. В 1900-х много путешествовал, занимался в библиотеках Европы, слушал лекции в Сорбонне. В Париже брал уроки рисования и гравюры у художницы Е. С. Кругликовой. В начале 1903 г. вернулся в Москву, где входил в круг русских символистов и начал активно публиковаться. В 1907 г. переехал в Коктебель. С 1910 г. работал над монографическими статьями о художниках, выступал в защиту художественных групп «Бубновый валет» и «Ослиный хвост». В 1910 г. в Москве вышел первый сборник «Стихотворения. 1900–1910». В 1914 г. вышла книга избранных статей о культуре — «Лики творчества»; в 1915-м — книга страстных стихотворений об ужасе войны «Anno mundi ardentis 1915» («В год пылающего мира 1915»). В это время он все больше внимания уделял занятиям живописью, писал акварельные пейзажи Крыма, выставлял свои работы на выставках «Мира искусства». Летом 1914 г., увлеченный идеями антропософии, вместе с единомышленниками приступил к постройке в Дорнах (Швейцария) Первого Гётеанума — культурного центра, основанного Р. Штейнером, антропософского общества. После революции поселился в Коктебеле. Создал цикл акварелей под названием «Коктебельская сюита». В 1924 г. в своем доме в Коктебеле организовал бесплатный Дом творчества (впоследствии — Дом творчества Литфонда СССР).

**ВРУБЕЛЬ Михаил Александрович**
*(1856, Омск — 1910, Санкт-Петербург)*

Живописец, график, скульптор, театральный художник. Родился в семье профессионального военного. Учился в Рисовальной школе Общества поощрения художеств. После окончания гимназии поступил на юридический факультет Санкт-Петербургского университета, который окончил с золотой медалью. В 1880 г. был зачислен вольнослушателем в Императорскую Академию художеств, где занимался в классе П. Чистякова. После окончания академии уехал в Киев. Расписывал Кирилловскую церковь и принимал участие в работах по созданию внутреннего убранства Владимирского собора. В 1890 г. переехал в Москву. В 1894 г. получил заказ на оформление особняка С. Т. Морозова. Создал эскизы костюмов и декораций к спектаклям Русской частной оперы С. И. Мамонтова. Входил в круг художников объединения «Мир искусства».

**ГИНЗБУРГ (Гинцбург) Илья Яковлевич**
*(1859, Гродно — 1939, Ленинград)*

Скульптор. Родился в бедной еврейской семье. С 1870 года обучался в мастерской скульптора М. Антокольского в Санкт-Петербурге. Благодаря содействию учителя в 1878 году поступил на скульптурное отделение Петербургской Академии художеств, где учился у А. фон Бока, Н. Лаверецкого, И. Подозёрова, и одновременно занимался в рисовальной школе Общества поощрения художеств (1878–1886). Создавал бронзовые жанровые фигурки, скульптурные портреты деятелей русской культуры. В 1910 г. выполнил первый монументальный проект — памятник Н. Гоголю в с. Сорочицы Полтавской губернии. В 1911 г. получил звание академика, в 1918 г. — профессора. С 1921 до 1925 года преподавал в Петроградских Государственных свободных мастерских (ВХУТЕИНе). В 1921–1923 — декан скульптурного факультета Высших художественно-технических мастерских. Создал памятники И. Айвазовскому в Феодосии, А. Пушкину в Екатеринославе, Г. Плеханову и Д. Менделееву в Ленинграде.

**ГОЛОВИН Александр Яковлевич**
*(1863, Москва — 1930, Детское Село Ленинградской области)*

Художник, живописец, график, сценограф. Родился в семье, где очень любили театр, музыку, литературу. Учился у Иллариона Прянишникова и Василия Поленова в Московском училище живописи, ваяния и зодчества (1881–89), в Академии Филиппо Колароссии (1889) и школе-студии Витти (1897) в Париже. Академик (1912). Член объединения «Мир искусства» (1902) и Союза русских художников (1903). Участвовал в выставках Товарищества передвижных художественных выставок (1893, 1894), Московского товарищества художников (1894, 1901–02), «Мира искусства» (1899–1903, 1906, 1911–12, 1924), Союза русских художников (1903–09, 1916), объединения «Новое общество художников» (1907, 1908), Exposition Universelle в Париже (1900; золотые и серебряные медали) и Брюсселе (1910), Esposizione Internazionale в Венеции (1907) и Риме (1911), а также выставках русского искусства в Париже (1906) и Берлине (1906). Много работал в театральной сфере. Оформлял спектакли для Большого театра и Московского Художественного театра в Москве. В 1902 г. был приглашен в Петербург на должность главного художника Императорских театров России, где на сцене Мариинского и Александринского театров Санкт-Петербурга создал свои знаковые спектакли. Автор сценографии и костюмов для антрепризы «Русские сезоны» С. Дягилева в Париже (опера «Борис Годунов» М. П. Мусоргского, 1908; балет «Жар-птица» И. Ф. Стравинского, 1910). Народный художник России (1928).

**ДОБУЖИНСКИЙ Мстислав Валерианович**
*(1875, Новгород — 1957, Нью-Йорк)*

График, живописец, театральный художник, пейзажист, книжный иллюстратор, историк искусства, педагог. Родился в семье военнослужащего. Окончил Санкт-Петербургский университет (1899). Учился в школе живописи Льва Дмитриева-Оренбургского в Санкт-Петербурге (1896–99) и школе Антона Ажбе и Шимона Холлоши в Мюнхене (1899–1901). Участник выставок с 1902 г. Принимал участие в выставках объединения «Мир искусства» (1902–06; член-учредитель, 1911–24), Союза русских художников (1904–10, член с 1904 г.), «Салона» Сергея Маковского (1909), Международного сецессиона (Рим, 1914), общества художников «Жар-цвет» (1924), международных выставках в Мюнхене (1909), Брюсселе (1910), Риме (1911), Венеции (1914, 1924), Мальме (1914) и Париже (1925), а также выставках русского искусства в Париже (1906, 1910), Берлине (1906, 1922), Вене (1908) и Нью-Йорке (1924). Работал в сатирических журналах Bugbear и Hell's Post (1905–06), иллюстрировал книги (с середины 1900-х гг.). Как сценограф работал с театрами Санкт-Петербурга и Москвы, оформлял спектакли-антрепризы С. Дягилева (с 1907 г.). Преподавал в школе живописи и рисования Елизаветы Званцевой (1906–10), в Новой художественной мастерской в Санкт-Петербурге (1911–17) и Государственных свободных художественных мастерских, которые были преобразованы в Высший художественно-технический институт в Петрограде (1918–23). Первый директор Витебского художественного училища (1919). Эмигрировал в 1924 г. Работал в театрах Риги, Парижа, Каунаса и Нью-Йорка (с 1925 г.). С 1929 г. Добужинский был ведущим художником Каунасского государствен-

